Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Зруйнаваць Дом Ураду

стар. 3

ISSN 2218-2144













# Жыццё працягваецца

**Нібыта пераканаўчая перамога можа для кагосьці аказацца піравай**

Сяргей ПУЛЬША

Памятаю, калі ў 2006 годзе Аляксандру Лукашэнку таксама зрабілі 83% галасоў, на адным з намётаў на плошчы Каліноўскага вісела шыльдачка: «83%? КГ/АМ». Карыстачы інтэрнэта памятаюць, што гэта такое.

«КГ/АМ» — гэта, у перакладзе на прыстойную мову, азначае, што крэатыў адназначна кепскі, ягоны аўтар — нехарошы чалавек.

Зараз ЦВК зноў налічыла Аляксандру Рыгоравічу больш за 83%. Але шыльдачкі пра крэатыў ніхто не вешае. Таму што і так ужо ўсё ўсім зразумела. Пэўна, толькі самыя аптымістычныя аптымісты спадзяваліся, што «ціхая вада грэблю рве». Гэтым разам не прарвала.

З аднаго боку, амаль ніхто не чакаў, што ў выніку гэтых выбараў нешта зменіцца. Ніхто не меў спадзеваў на перамогу альтэрнатыўнага кандыдата. Тое, што ўся глеба заточаная пад пяты тэрмін Аляксандра Рыгоравіча, было зразумела адразу пасля рэгістрацыі ініцыятыўных груп. А памятаеце, як аналітыкі казалі пра памілаванне палітвязняў? Правільна, «Лукашэнка рыхтуе глебу для прызнання выбараў». А калі ён рыхтуе глебу, то ні ў каго і сумневаў не ўзнікала, што кіраўніком краіны будзе не ён.

Тацццяна Караткевіч казала, канешне, што «пойдзе не да канца, а да перамогі». Але ж адначасова і вызнавала, што перамога для яе — гэта не прэзідэнцкае крэсла, а павелічэнне ў грамадстве колькасці прыхільнікаў пераменаў.

У пэўнай ступені сваёй мэты яна дамаглася. Зусім нездарма Аляксандр Рыгоравіч расхваляваўся наконт «чалавека ў спадніцы», які «наўрад ці можа кіраваць краінай». Па-першае, ён ведае рэальную колькасць галасоў, пададзеную за Караткевіч і «супраць усіх». І дакладна разумее, што «супраць усіх» — гэта, найперш, супраць яго. Па-другое, ён падсвядома, «па Фрэйдзе» ўзгадаў сваю першую перадвыбарчую кампанію, калі таксама казалі, што «кіраўнік калгаса наўрад ці можа кіраваць краінай». Таму і знерваваўся, пераходзячы на асобы.

З іншага боку, калі ніхто не чакаў на сенсацыйны вынік, то і вялікага расчаравання няма. Дэпрэсіі няма, і ўсе маюць планы на будучыню.

Статкевіч, Някляеў і Лябедзька маюць намер пачаць адраджаць вулічную актыўнасць і дамагацца зменаў у выбарчае заканадаўства згодна са стандартамі АБСЕ. Пра гэта яны заявілі, нават не чакаючы афіцыйных вынікаў выбараў, адразу пасля закрыцця выбарчых участкаў. Прычым, яны хоць і расчараваныя магчымасцю спынення санкцый з боку Еўропы ў адносінах да беларускіх чыноўнікаў, але і гэта збіраюцца павярнуць на сваю карысць. На «выязных» у Еўропу можна ціснуць эфектыўней, чым на «неўязных». Ад іх ужо прагучала прапанова выдаваць сінявокай крэдыт МВФ у залежнасці ад прагрэсу ў палітычным жыцці краіны.

Гэта, мабыць, здаецца нерэальным. Але цалкам карэлююцца са словамі старшыні МВФ Крысцін Лагард, якая на сустрэчы з Лукашэнкам у Нью-Ёрку напрыканцы верасня параіла беларускаму правадыру «глыбока пераарыентаваць палітыку» краіны, прычым «на самым высокім узроўні».

Вынікамі ж працы «непрымірымай апазіцыі» скарыстаюцца якраз «памяркоўныя апазіцыянеры». Яны, безумоўна, далучацца да патрабаванняў аб канкрэтных зменах у Выбарчы кодэкс. Але ў той жа час пойдуць крыху іншым шляхам.




> **Ніхто не чакаў, што ў выніку выбараў нешта зменіцца**

Тацццяна Караткевіч на паслявыбарчай прэс-канферэнцыі агучыла свае планы. Найперш, гэта сабраць агульнанацыянальны форум развіцця «За мірныя перамены». Афіцыйна абвешчана, што гэта робіцца для таго, каб «кожны атрымаў магчымасць выказацца, падзяліцца ідэяй і стаць часткай вялікага руху за мірныя перамены».

Гэта пужае. Калі абвяшчаюць пра «вялікі рух», як правіла, у выніку ўзнікае чарговая карлікавая апазіцыйная арганізацыя. Ці не збіраецца Караткевіч зрабіць памылкі сваіх папярэднікаў? Час пакажа. Прынамсі, кіраўнік штаба Караткевіч Андрэй Дзмітрыеў на той жа прэс-канферэнцыі адрынуў магчымасць пераўтварэння «Гавары праўду!» у нейкую палітычную партыю.

Але няма сумневаў і ў тым, што гэты форум задумваецца як антыпод не прайшоўшага ў гэтым годзе Агульнанацыянальнага беларускага сходу. Адначасна Караткевіч і яе штаб абвясцілі, што пачынаюць перадвыбарчую кампанію ў парламент.

Так што ў апазіцыянераў усё не так і кепска. Жыццё працягваецца. Працы шмат. Перспектывы, якія-ніякія, ёсць.

А вось каму не пазайздросціш, гэта 83-працэнтнаму кіраўніку дзяржавы. Толькі ў яго няма выразных новых ідэяў і планаў на будучыню. Яму давядзецца рэагаваць на сітуацыю, а не кіраваць ёю. І ў выніку 83-працэнтная перамога можа стаць піравай.

# Памяці Аляксея Караля

Сяргей ШАПРАН

**Сорак дзён без Аляксея Сцяпанавіча. Гэта быў светлы чалавек, які і ўсміхаўся гэтаксама — светла. Увогуле, мне шанцавала ў жыцці на галоўных рэдактараў, і Аляксей Кароль — не выключэнне.**



Я шчыра ўдзячны галоўнаму рэдактару «Новага Часу» за падтрымку. Калі, перайшоўшы ў «кніжны фармат», я застаўся па-за межамі журналістыкі, вярнуцца ў гэтую самую журналістыку працяглы час не было як, бо не было дзе друкавацца. І ў гэты даволі складаны перыяд мяне падтрымалі Аляксей Кароль ды яшчэ Уладзімір Дзюба, галоўны рэдактар «Абажура». Прычым ніякіх абмежаванняў не было — ні тэматычных, ні цэнзурных, ні якіх іншых. Сапраўдная свабода творчасці. Гэтак жа некалі было ў выданнях Пятра Марцава «Имя» і «Белорусская деловая газета».

Зрэшты, дакладна ведаю, што яшчэ адзін чалавек быў удзячны галоўнаму рэдактару «Новага Часу» — Рыгор Барадулін. Так, яго вершы друкаваў «Дзеяслоў» і «Літаратурная Беларусь» (між іншым, дадатак да ўсё таго ж «Новага Часу»), а гутаркі з ім у апошнія гады практычна нідзе ўжо не з'яўляліся. Хоць патрэба публічна выказацца ў дзядзькі Рыгора, мусіць, была, але ён апынуўся амаль што ў поўнай мас-медыйнай ізаляцыі. І зноў жа Аляксей Кароль без аніякіх ваганняў пагаджаўся з любой маёй прапановай зрабіць інтэрв'ю з Барадуліным. Нават не юбілейнае, а хоць бы з нагоды 79-годдзя. Аляксея Сцяпанавіча і пераконваць не трэба было — ён цудоўна разумеў, сучаснікамі якога вялікага паэта мы з'яўляемся. І вось воляю лёсу тая неюбілейная гутарка сталася апошнім інтэрв'ю Барадуліна. Тое самае, дзе ён за некалькі дзён да смерці кажа, што смерці няма... Каб не Аляксей Кароль, ці ведалі б мы, пра што думаў паэт напрыканцы свайго зямнога шляху?.. Памятаю, дзядзька Рыгор быў не толькі ўсцешаны — ён быў насамрэч удзячны рэдактару «Новага Часу» за гэтую (дый не толькі гэтую) публікацыю. Перадаючы тады сваю новую кнігу «Лепей», напісаў: «Вяльможнаму спадару Аляксею Каралю — каб усё дзеілася па-каралеўску! Хай Вам шанцуе».

Светлая памяць светламу чалавечу Аляксею Сцяпанавічу Каралю, які ўсё дзеяў па-каралеўску.

*Рэакцыя НЧ выказвае самыя шчырыя спачуванні родным і сябрам Аляксея Сцяпанавіча. Светлая памяць Светламу чалавеку...*

# Падшыпнікі будуць працаваць адзін дзень на тыдзень

Вольга ХВОІН

**Работнікаў Мінскага падшыпнікавага завода пераводзяць на скарочаны тыдзень.**

Напрыканцы верасня стала вядома, што МАЗ і Мінскі падшыпнікавы заводы перайшлі на пяцідзёнку. Такі графік быў вызначаны да выбараў. Але выбары прайшлі, і стала вядома, што работнікаў Мінскага падшыпнікавага завода адпусцілі дахаты. На гэтым тыдні людзей азнаёмяць з загадам, каму выходзіць у тыдзень адзін раз, каму два, каму ў дзень на чатыры гадзіны, каму ўвогуле ісці ў адпачынак за свой кошт.

«Мы нядаўна сустракаліся з рабочымі адтуль. Завод не можа плаціць за электраэнергію. Ужо было вядома, што графік работы для рознага персаналу будзе складзены па-рознаму. Будуць пераводзіць рабочых на час, калі найменшы пік нагрузак у электрасетцы. Быццам, там нейкія дамовы з энергазбытам. Там і раней рабочыя працавалі па 2–3 дні на тыдзень, ці ўвогуле людзей выклікалі, як з'яўляліся аб'ёмы працы», — распавядае старшыня Свабоднага прафсаюза металістаў Аляксандр Бухвостаў.

Па словах прафсаюзнага дзеяча, інфармацыю пра справы Мінскага падшыпнікавага завода ў прафсаюзе атрымліваюць з першых рук і даўно ў курсе пра праблемы на прадпрыемстве.

«Скончылася палітычная кампанія, перад ёй напружыліся і па пяць дзён адпраўлялі людзей на працу. Думаю, і на МАЗе будуць змяняць графік працы. Буйныя прадпрыемствы машынабудаўнічага комплексу губляюць рынкі і будуць скарачаць аб'ёмы. Можа, нехта не пагодзіцца са мною, але гэта ўжо шлях у адзін бок. Ніколі яна не адновіць тыя аб'ёмы, што былі яшчэ тры гады таму. Расійскія рынкі звузіліся, менавіта на іх працавалі многія прадпрыемствы. Завод дыхае на ладан па многіх прычынах. Найперш па тэхнічнай палітыцы — там не вырашана многа пытанняў, не скончаная мадэрнізацыя. Тут нічога новага, усё прадказальна», — гаворыць Бухвостаў.

Заробак на Мінскім падшыпнікавым заводзе надзвычай нізкі. У жніўні гэтага года заробак асноўных вытворчых рабочых (цяпер іх 600, а ў 2009 годзе было 1 200) на ўзроўні 4,7 мільёна. Дапаможны персанал атрымлівае яшчэ менш.

Усяго на Мінскім падшыпнікавым заводзе цяпер працуе 1 700 чалавек, у 2009 — 2010 гадах было каля 4 тысяч чалавек.

Паводле справаздачы Міністэрства фінансаў аб дзейнасці беларускіх ААТ, за выключэннем банкаў, за першую палову 2015 года Мінскі падшыпнікавы завод увайшоў у дзясятку стратных прамысловых гігантаў (мінус 113 мільярдаў рублёў).

# Замест дапамогі — абвінавачванне

Марат ГАРАВЫ

**Жыхарка Мазыра Ганна Булаш звярнулася ў Камітэт дзяржаўнага кантролю наконт капітальнага рамонту дома, аднак замест дапамогі атрымала адміністрацыйную справу па абвінавачванні ў паклёпе.**

Ганна Булаш трыццаць шосты год жыве ў двухпакаёўцы цаглянага дзевяціпавярховіка, абліцаванага керамічнай пліткай, тэрмін эксплуатацыі якой, згодна будаўнічым стандартам, не перавышае 25 гадоў. І насамрэч — плітка пачала патроху абвальвацца, і фасад будынку ўсё больш зеўраў бруднымі шэрымі плямамі аголенай рашчыны. Састарэлы дах таксама прасіў рамонту і ўцяплення. Чакаў добраўпарадкавання і занепалы панадворак, які, згодна з тымі ж нормамі, раз на 10 гадоў патрабуе абнаўлення.

Вось чаму Ганна Булаш разам са сваімі суседкамі ў 2008 годзе пачала абіваць парогі кабінетаў, патрабуючы ад чыноўніцтва капітальнага рамонту дому і панадворка. Праз тры гады жыхары ўрэшце дабіліся пабелкі і афарбоўкі пад'езду, замены ліфтаў і пачатку рамонту даху. А яшчэ праз два замест аднаўлення абліцоўкі фасаду плямы аголенай рашчыны зараўнавалі цэментам і пафарбавалі.

І хоць рамонт даху так і не быў завершаны, суседзі Ганны Булаш бачылі, як рабочыя ЖЭУ-1 Мазырскага райжылкамунгасу адвозілі ад дому на трактары 44 кіпы шкловаты, што прызначалася для ўцяплення даху.

Таму 11 жніўня Ганна Булаш накіравала ліст у Камітэт дзяржкантролю з просьбай правесці праверку і распачаць крымінальную справу ў сувязі з крадзяжом дзяржаўнай маёмасці ў асабліва вялікім памеры. З КДК ліст перанакіравалі для разбіральніцтва па месцы жыхарства заяўніцы.

Затым яна атрымала пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па крадзяжу дзяржмаёмасці за подпісам супрацоўніка Мазырскага РАУС Аляксандра Кошалева і пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні з боку пенсіянеркі, падпісаны малодшым сяржантам міліцыі Аляксандрам Пятровічам. Гэты пратакол стаў адказам на заяву начальніка ЖЭУ-1 Вячаслава Пашвенчука і майстра гэтага ўпраўлення Любові Мірашнічэнкі, якія прасілі міліцыю распачаць супраць Ганны Булаш адміністрацыйную справу за паклёп.

Тым часам па Мазыры пайшлі пагалоскі, што суд па гэтай заяве будзе паказальным, каб адбіць ахвоту скардзіцца на мясцовае начальства.

Аднак 12 кастрычніка намесніца старшыні суда Мазырскага раёна па крымінальных і адміністрацыйных справах Элеанора Ярмоленка не задаволіла заяву камунальшчыкаў з-за адсутнасці ва ўчынку Ганны Булаш складу адміністрацыйнага правапарушэння.

У свою чаргу, жанчына зноў напісала ліст у Камітэт дзяржкантролю з просьбай паспрыяць завяршэнню рамонту дома.

# Бандарэнка аб'явіў галадоўку

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Вязень сумлення Андрэй Бандарэнка 5 кастрычніка абвясціў бестэрміновую галадоўку ў знак пратэсту супраць парушэння сваіх правоў і жорсткага, бесчалавечнага абыходжання.**

Такое рашэнне Андрэй прыняў у сувязі з тым, што яго перавялі з «бяспечнага месца» (адзіночнай камеры) у атрад, на казарменнае становішча. У калоніі цыркулюе інфармацыя пра яго нібыта «нізкі статус», што не дазваляе зняволеным з ім мець зносіны.

Як стала вядома з размовы з ягоным бацькам, Валерам Бандарэнкам, за час пераводу ў атрад Бандарэнка ўжо двойчы пабываў у карцары і цяпер знаходзіцца ў ПКТ (памяшканні камернага тыпу). Падставай паслужыла тое, што ён вымушаны быў уступіць у канфлікты з іншымі зняволенымі, абараняючы свае правы і годнасць.

Андрэй у тэлефоннай размове заявіў, што мае намер і далей адстойваць свае правы. Між тым, тры і больш парушэнняў «рэжыму» могуць прывесці да асуджэння яго па сумнавядомым артыкуле 411 Крымінальнага кодэкса — «Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы». Тэрмін — да аднаго года пазбаўлення волі і перавод у турму на больш жорсткі рэжым. Гэтым шляхам ужо прайшлі, напрыклад, Эдуард Лобаў і Мікалай Статкевіч.

Бандарэнка спадзяецца, што яго сітуацыя не застанецца па-за ўвагай праваабаронцаў.

# Мільёны за «Пагоню»

Жанна ГЕМБІЦКАЯ

**У Барысаве адбыўся суд над фанатамі зборнай Беларусі, якіх затрымалі 12 кастрычніка на матчы зборных камандаў Беларусі і Македоніі за «Пагоню» на шаліках.**

Суддзя Аляксей Болатаў аштрафаваў Віталя Будзько, Зміцера Хведарука і Юрыя (прозвішча хлопец называць не захацеў) на 10 базавых велічынь, але фармальна не за шалікі, а, як водзіцца, за лаянку і супрацьдзеянне супрацоўнікам міліцыі.

Дарэчы, Віталь Будзько — вядомы гродзенскі фанат, які на працягу ўжо больш за 30 гадоў падтрымлівае гродзенскі «Нёман» і беларускія клубы на спаборніцтвах рознага ўзроўню. І, заўважце, да гэтага неяк абыходзіўся без мацюкоў. Таму па меншай меры дзіўна выглядае заява прэс-службы УУС Мінаблвыканкама пра тое, што заўзятары былі затрыманыя не за нашэнне шалікаў з нацыянальнай сімволікай, а акурат за лаянку і непадпарадкаванне міліцыі.

«Выпусцілі — і тое добра, — пракаментаваў Віталь затрыманне «Твайму стылю». — А затрымалі за шалік з зарэгістраванай сімволікай — Пагоняй. Пра што тут яшчэ можна казаць... На відэа, якое глядзелі ў судзе, усё паказана: мы разглядалі шалік. Супрацоўнікі міліцыі мне сказалі: пройдзем, каб высветліць асобу. Але ў мяне быў пашпарт, і я паказаў яго. Тады яны вырашылі дзейнічаць інакш. Шалік гэты заслужаны. Асабіста мяне не затрымлівалі, а вось маю жонку з ім ужо выводзілі». Трэба адзначыць, што фан-сектар зборнай Беларусі ў поўным складзе пакінуў стадыён падчас матчу супраць Македоніі, пасля затрымання. А ў бліжэйшы час фанаты абвесцяць збор сродкаў на пагашэнне штрафаў.

Магчыма, варта было б і футбалістам зборнай Беларусі зрабіць свой унёсак у выплату штрафаў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Зруйнаваць Дом Урада

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Лукашэнка мог набраць які заўгодна працэнт, але гэта не перамога. Перамога — гэта калі пад ягоным кіраўніцтвам узровень жыцця ў нас будзе нароўні з еўрапейскімі краінамі, як нам было абяцана тройчы. А гэта наўрад ці спраўдзіцца і ў будучай пяцігодцы.**

А ўсё таму, што нашы чыноўнікі жывуць у нейкай іншай Беларусі, чым грамадзяне краіны. Урадаўцы не ходзяць па крамах, не бачаць курсы валют у абменніках, у іх, пэўна, нейкая свая інтэрнэт-прастора. Яны не падключаныя нават да кабельных сетак, у іх не ідзе РБК альбо Еўраньюс. Што ў іх ідзе замест гэтага — невядома. Падаецца, Дом Урада, дзе засядае Саўмін, — гэта нейкая дзірка ў паралельны Сусвет, паралельную Беларусь. Інакш я не разумею, адкуль бяруцца такія планы развіцця краіны.

Пакуль усе былі занятыя прэзідэнцкай гонкай, Савет міністраў уціхую ўхваліў такія дакументы, як «Аб важнейшых параметрах прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2016 год», «Аб асноўных напрамках грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь», «Аб Рэспубліканскім бюджэце на 2016 год», «Аб дзяржаўных праграмах і аказанні дзяржаўнай фінансавай дапамогі», а таксама «Аб дзяржаўным індыкатыўным планаванні сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь».

Што ў нас у планах на будучыню? На 2016 год беларускі ўрад запланаваў рост ВУП на 1,1%, на 2017-ы — ужо 2,1%, на 2018-ы — 3,5%. Аптымізм з іх так і прэ, улічваючы, што студзені-жніўні гэтага года ВУП Беларусі знізіўся на 3,5%. А гэта яшчэ не канец года.

Міжнародны валютны фонд прарочыць нам у 2016 годзе не рост у 1,1%, а далейшую рэцэсію і зніжэнне эканомікі на 2,2%. І гэта яшчэ лічба аптымістычная. Бо МВФ у красавіку казаў, што ў гэтым годзе наш ВУП знізіцца толькі на 2,3%. А мы, як заўсёды, план перавыканалі.

З чаго беларускія чыноўнікі ўзялі, што ў будучым годзе мы ўзновім эканамічны рост? Канешне ж, яны ўзялі гэта ў паралельным Сусвеце. Па сведчанні нашых урадаўцаў, там, у паралельным Сусвеце, курс расійскага рубля ў 2016 годзе складзе ў сярэднім 55 рублёў за 1 долар. Але больш цікавае там адбываецца з беларускім рублём, які павінен быць у packaзчыку Br16.220/$1.

У нашай жа рэчаіснасці за долар ужо зараз даюць 62 расійскіх рублі, і 17.200 беларускіх за адзін «зялёны». І няма абсалютна ніякіх падставаў меркаваць, што расійскі ці беларускі рубель узмацняцца да долара. Расія загразла ва Украіне, а зараз яшчэ — і ў Сірыі. «Дзякуючы» гэтым яе паводзінам санкцыі з яе ніхто здымаць не збіраецца. А з-за санкцый ад нашага «старэйшага брата» адмаўляюцца інвестары, а адток капіталу працягваецца. Таму казаць пра ўзмацненне расійскага рубля, а тым больш беларускага, — на ўзроўні беспадстаўных мараў.

Дарэчы, па дадзеных урада, курс беларускага рубля да долара, які мы ўжо бачылі ў нашых абменніках сёлета (Br17.800/$1) мы павінны дасягнуць толькі ў 2018 годзе.

Ну як тут не казаць пра паралельны Сусвет?

І яшчэ парачка дзіўных лічбаў. Урад разлічвае, што ў наступным годзе кошт нафты складзе $70 за барэль. У дзень напісання матэрыялу (серада, 14 кастрычніка) барэль нафты маркі Brent на Лонданскай біржы каштаваў $49,32, а нафты WTI — $46,86. Па прагнозах Сусветнага банка, сярэдняя цана нафты ў 2016 годзе не павысіцца на $20, як у паралельным Сусвеце, а знізіцца на $10 з-за зняцця міжнародных санкцый з Ірана.

Патанненне нафты нам карыснае, бо свайго «чорнага золата» ў нас каты па пяту. Але ў той жа час нельга разлічваць і на тое, на што вельмі разлічвае ўрад — на падаражанне бензіну. Згодна з паказчыкамі ўрада, у будучым годзе мы павінны прадаваць нафтапрадукты па $508 за тону. Хаця зараз гэты кошт — $429,12. Якім чынам, за кошт чаго ва ўмовах «падаючай» нафты на 80 «зялёных» падаражэюць прадукты перапрацоўкі гэтай нафты — не тлумачыцца.

Гэты аптымізм, які мяжуе з ідыятызмам, развальваецца ўжо зараз, адразу пасля выбараў. Напрыклад, міністр энергетыкі Уладзімір Патупчык ужо паспеў анансаваць павышэнне тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва. «Што тычыцца тарыфаў, вы бачыце, што яны досыць стабільныя на нашым рынку. У бліжэйшы час мы пралічваем у рамках праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця тарыфы на сярэднетэрміновую і кароткатэрміновую перспектыву. Для таго, каб мы не адставалі ад тых працэсаў, якія адбываюцца ў макраэканоміцы, тарыфы для насельніцтва будуць падвышацца», — цытуе міністра БелаПАН.

Пра якое павышэнне тарыфаў вядзецца гаворка, калі ў нас, згодна прагнозам, усё ў парадку: кошты на нафту, курс долара, ВУП і гэтак далей? А справа ў тым, што Патупчык сказаў гэта падчас адкрыцця Беларускага энергетычнага і экалагічнага форуму. То бок, не ў паралельным Сусвеце Дома Урада.

Відавочна, што пры такіх прагнозных падыходах, пры нежаданні бачыць рэчаіснасць, атрымай ты хоць двойчы па 83% — табе проста капец. Гэта ўжо не проста некампетэнтнасць у паказчыках, гэта свядомы падман ці самападман. Баюся, што выйсце тут можа быць толькі адно — зруйнаваць Дом Ураду, каб завяліць гэтую дзірку ў паралельны Сусвет. А чыноўнікаў прымусіць ездзіць у транспарце, хадзіць у нашы крамы і глядзець хаця б беларускае тэлебачанне. Калі яны не звар'яцеюць ад сутыкнення з рэчаіснасцю, значыць, яны не безнадзейныя.

На заканчэнне, як заўсёды, навіна добрая. Міністэрства аховы здароўя Беларусі сваёй пастановай №102 ад 12 кастрычніка запатрабавала ад аб'ектаў гандлю, грамадскага харчавання і сэрвісу адкрыць наведвальнікам доступ да прыбіральняў, у тым ліку і службовых.

«На аўтазаправачных станцыях, аб'ектах грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання, крамах, пры адсутнасці ў іх грамадскіх прыбіральняў, павінен быць дазволены доступ грамадзян у службовыя прыбіральні», — гаворыцца ў дакуменце.

Міністэрства аховы здароўя таксама абавязала абсталяваць прыбіральнямі плошчы, паркі і скверы, тэрыторыі рэкрэацыйных зон населеных пунктаў, рынкаў, будынкаў культурна-забаўляльнага і спартыўнага прызначэння, чыгуначных вакзалы і станцыі, аўтавакзалы і аўтастанцыі, аэрапорты.

Паглядзеўшы на нашыя прагнозы і параўнаўшы іх з рэальнасцю, узнікае пытанне: а ці будзе чым грамадзянам хадзіць у гэтыя прыбіральні?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Ігар Шуневіч

**Кіраўнік беларускага МУС падзякаваў праваахоўнікам за «самавалоданне ў перыяд прэзідэнцкіх выбараў».**

«Ад імя кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў і сябе асабіста выказваю падзяку і ўдзячнасць усяму асабоваму складу за добрасумленнае выкананне службовых задач, высокую дысцыпліну і самавалоданне, якія далі магчымасць забяспечыць праведзенне выбараў прэзідэнта Рэспублік Беларусь на высокім арганізацыйным узроўні», — адзначыў Шуневіч.

Ён нагадаў, што ў перыяд з 5 па 12 кастрычніка ўвесь асабісты склад МУС быў пераведзены на ўзмоцнены варыянт нясення службы. «У гэтыя дні ад нас патрабавалася выключная арганізаванасць, высокая асабістая дысцыплінаванасць і вытрымка», — падкрэсліў кіраўнік МУС.

Шуневіч нездарма некалькі разоў у віншаванні падкрэсліў «вытрымку» міліцыянераў. Пэўна, ім было вельмі цяжка не махаць дубінамі ў час правядзення передвыбарчых пікетаў і мітынгаў.



## Уладзімір Беражкоў

**Былога рэдактара газеты «Прессбол» і экс-менеджара хакейнага клуба «Дынама-Мінск» пакінулі пад вартай яшчэ на два месяцы.**

13 кастрычніка сышоў двухмесячны тэрмін з моманту затрымання Беражкова. Згодна з законам, два месяцы — тэрмін, за які належыць скончыць папярэдняе расследаванне да ўзбуджэння крымінальнай справы. Але начальнік следчага аддзела, які займаецца «справай Беражкова» Сяргей Кабаковіч пракаментаваў сітуацыю коратка: «Следства працягваецца, мера стрымання пакінутая без зменаў».

А тым часам, як стала вядома «БелГазеце», хакеісты мінскага «Дынама» напісалі ліст Аляксандру Лукашэнку ў абарону Беражкова. Праўда, у прэс-службе «Дынама» пакінулі гэтую інфармацыю без каментараў. Адмовілася як-небудзь каментаваць сітуацыю і адвакат Беражкова Вольга Стэчман.

Нагадаем, што экс-менеджэра «Дынама-Мінск» падазраюць у прысваенні грошай клуба і ўладкаванні на працу «мёртвых душ».

## «Крамбамбуля»

**На сайце мультылэйбла «Пяршак» адбыўся рэліз развітальнага альбома «Крамбамбулі» «Чырвоны штраль».**



Канцэртная прэзентацыя адбудзецца 7 лістапада ў Вільні.

«Вось і здзейснілася. Мы ў лясах. У гушчарах, сатканых імглою. Сярод бярозаў ды соснаў. Бо ўжо ніяк не атрымлівацца трываць усіх гэтых прэдсядацеляў, міліцыянтаў, капітанаў Ягоравых і іншых савецкіх нячысцікаў, якія, нібы тараканы, распаўзліся па нашай зямлі, жаруць наш хлеб, п'юць нашае малако і хочуць, каб мы былі іхнімі служкамі. Дык вось не атрымаецца! Мы ведаем нашы пушчы, бары і лясы. Адсюль мы дастанем кожнага акупанта. І кожны атрымае тое, чаго заслугоўвае. І нашая перамога непазбежная, бо з намі старадаўні пакліч: «Гэй, ліцвіны, Бог нам радзіць!», — адзначаюць музыкі ў заяве з нагоды выхаду альбома.

Адначасова з альбомам выйшла відэа на песню «Каб мы калі каму чаго», у якой галоўныя вакальныя партыі выконваюць амаль усе ўдзельнікі «Крамбамбулі». Атмасферны ролік зняў рэжысёр і даўні сябра гурта Мацвей Сабураў.

Канцэрт у Вільні будзе складацца з дзвюх частак: у першай прагучыць «Чырвоны штраль», у другой — лепшыя песні ад пачатку існавання праекта, у тым ліку «Госці», «Абсэнт», «Турысты», «Без цябе», «Карчомка» ды іншыя. Новы альбом атрымаў назву ў гонар віленскай кавярні пачатка XX стагоддзя, дзе сустракаліся дзеячы беларускага адраджэння. Спампаваць яго можна на сайце мультылэйбла «Пяршак».

Бясплатная віза (без консульскага збору) з тэрмінам з 6 да 8 лістапада ўключна выдаецца на падставе набытых у Беларусі квіткоў на мерапрыемства. Працэдура разгляду візавых хадатайніцтваў — спрошчаная, таму даведкі з месца працы/навучання, пацверджанне платаздольнасці не патрабуюцца.

# Ці патрэбна Беларусі рэвалюцыя?



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Ва ўсіх без выключэння кандыдатаў на цяперашніх выбарах было нешта агульнае. Усе яны, як заведзеныя, паўтаралі адно і тое ж: «Беларусі не патрэбныя рэвалюцыі!» Але я ўсё ж паспрабую выказаць і абгрунтаваць супрацьлеглае меркаванне.**

Беларусы баяцца рэвалюцый, як і наогул любых сур'ёзных зменаў у сваім жыцці. Гэта літаральна прапісана ў менталітэце нацыі. Прынамсі, так паўтараюць нам тыя, хто сам ужо замацаваўся на вяршынях улады і мае самы вялізны ўплыў. Але ўся логіка гістарычнага развіцця паказвае: Беларусі патрэбна свая рэвалюцыя. Інакш — застой і ўжо незваротнае адставанне ад навакольнага свету.

Аднак у нас прынята лічыць, што беларусы ад рэвалюцый заўсёды толькі пакутавалі, а ўраджайнасць бульбы і надоі — зніжаліся. Нас заклінаюць стабільнасцю, пужаюць майданам. І нікога не бянтэжыць, што палова мінскіх вуліц названая імёнамі рэвалюцыянераў... Як паказваюць простыя назіранні, найболей актыўна палохаюць народ рэвалюцыяй высокапастаўленыя дзяржслужбоўцы, лідары Ліберальна-дэмакратычнай партыі ды ГА «Белая Русь».

Чамусьці ў нас прынята лічыць, што рэвалюцыя — гэта абавязкова матросы з вінтоўкамі, якія штурмуюць Зімовы Палац. Ну або дзяўчына топлес са сцягам на барыкадах Парыжскай Камуны. І абавязкова — Майдан, вялікі і жудасны, які ўсё бачылі толькі па тэлевізары, але якога — на ўсякі выпадак — баяцца-баяцца-баяцца.

Але давайце ўспомнім гісторыю. Была індустрыяльная рэвалюцыя. Яна дала нам чыгункі і фабрыкі замест саматужна-рамеснай вытворчасці. Была медыцынская рэвалюцыя — дзякуючы ёй сёння воспа і чума больш не выкошваюць цэлыя краіны. Была навукова-тэхнічная рэвалюцыя. Яна дала нам мікрахвалёўкі, мабільнікі і кампутары. Адмыслоўцы назавуць яшчэ і «зялёную рэвалюцыю» сярэдзіны XX стагоддзя ў аграрнай прамысловасці, пасля якой вытворчасць прадуктаў харчавання вырасла на парадкі. А хтосьці ўспомніць і «культурную рэвалюцыю» ў Кітаі. Затое мала хто ведае, што першапачаткова тэрмін revolution ужываўся ў астралогіі і алхіміі. А ў шырэйшы ўжытак тэрмін увайшоў з назвы кнігі Мікалая Каперніка «De revolutionibus orbium coelestium» («Аб кручэннях нябесных сфер», 1543). Якая сама па сабе стала рэвалюцыяй у навуцы.

І вось тут варта, мусіць, разабрацца: чаму адны беларусы рэвалюцый не жадаюць і баяцца, а іншыя — вельмі нават жадаюць, хай і казаць пра гэта ў нашым грамадстве не прынята. Сказаць: «Я жадаю рэвалюцыю!» — гэта як прызнацца ў нядаўна вылечаных пранцах. Не смяротна, але ганебна.

Ёсць у рускай мове такая прыказка, не вельмі вядомая, але вельмі дакладная: «Маладыя лейтэнанты вельмі любяць вайну». Сапраўды, усякі лейтэнант спіць і бачыць сябе генералам. Але ў мірны час ён генеральскія пагоны калі і атрымае, то толькі ў ладным веку, у камплекце з гемароем, цырозам печані, дыхавіцай і кепскім характарам. Іншая справа — вайна. На ёй, асабліва ў выпадку «перамогі нашых», хуткая кар'ера талковаму маладому афіцэру забяспечаная. Могуць, вядома, і забіць па ходзе справы — але тут ужо, як гаворыцца, выдаткі прафесіі.

У навуковай сацыялогіі гэта завецца «сацыяльны ліфт». Такім тэрмінам апісваецца сітуацыя ў грамадстве, калі выхадзец з сацыяльных нізоў можа досыць хутка падняцца да вяршыняў улады або кар'еры. У аўтакратычным, застылым, застойным грамадстве сацыяльныя ліфты проста выключаныя. Кіруючая эліта ва ўладзе, у бізнэсе, у іншых сферах занадта моцна трымаецца за свае месцы — і не дае працаваць механізмам, якія забяспечваюць ратацыю ў «вышэйшых сферах». Герантакратыя часоў позняга СССР, дынастыя Кімаў у Паўночнай Карэі, прэзідэнт, які 20 гадоў носіць адзін і той жа «крыштальны сасуд», — гэта ўсё прыклады грамадстваў, у якіх не працуюць «сацыяльныя ліфты».

Падобная ж сітуацыя і ў Еўропе, ЗША і іншых краінах з устойлівым дэмакратычным укладам. Так, там той, «хто быў нікім», усё-ткі можа «стаць усім», але хутчэй у сілу нейкіх асабліва звышчалавечых выслікаў або талентаў, або чагосьці яшчэ, не меней звышнатуральнага. І такія выпадкі сапраўды ёсць, і яны не ў меру шырока рэкламуюцца — аднак 99,999% насельніцтва не выходзіць за рамкі сярэдняга для абывацеля ўзроўню. Але нават і там адбываюцца свае рэвалюцыі — і лакальныя «сацыяльныя ліфты» ўключаюцца ды хутка ўзносяць на вяршыню маладых, разумных і ініцыятыўных. Менавіта так кампутарная рэвалюцыя, распачатая на Захадзе напрыканцы 1980-х гадоў, узнесла на вяршыню Біла Гейтса, Стыва Джобса, Сяргея Брына, Марка Цукерберга ды Лары Элісана. Зрэшты, гэта прыватны выпадак, хаця і надзвычай вядомы.




Але вось ва ўсякую эпоху вялікіх зменаў «сацыяльныя ліфты» ўключаюцца «на ўсю моц». Калі б не няўрымслівы Пётр І са сваімі рэформамі, якую б кар'еру зрабіў сялянскі сын Аляксашка Меньшыкаў? А салдацкая самадайка Марта Скаўронская, пасля вядомая як Кацярына І?

Перабудова і распад СССР наогул сталі велізарным па сваіх маштабах сацыяльным ліфтам, які ўзнёс на вяршыню ўлады ды сацыяльнага ўплыву практычна ўсю цяперашнюю ўладную і культурную эліту, уключаючы дзейнага прэзідэнта Беларусі. Але мінула чвэрць стагоддзя, і мы атрымалі новы застой. Сёння, як і шмат гадоў таму, на зыходзе СССР, вакол чуваць: «Без „лапы" — нікуды, знаёмствы трэба мець», «Ну, каб на міжнародныя адносіны паступіць, гэта трэба тату-міністра мець», «Начальніка ўсё роўна з выканкама прызначаць, а ты будзеш моцна праўду шукаць — звольняць за прафнепрыдатнасць», «Трэба ехаць!».

«Ды тут у нас што круціся, што не круціся, — усё без сэнсу», — засмучаецца таксіст, які вязе мяне на семінар па тэхналогіях аналізу дзяржаўнага бюджэту.

А на семінары засмучаецца ўжо яго вядучы: «У Беларусі атрымаць рэальныя дадзеныя па прынятым дзяржбюджэце практычна немагчыма — яны зачыненыя і даступныя вузкаму колу службоўцаў. Плюс непадкантрольныя нікому пазабюджэтныя і прэзідэнцкія фонды». Зачыненасць вышэйшых эшалонаў улады, боязь нешта сказаць публічна, панічны страх арганізавана выйсці на вуліцу, гутаркі на кухнях, паўшэптам, упэўненасць — «Усё роўна без нас усё вырашаць!». Знаёмыя сімптомы?

Памятаю, на пачатку ліпеня мінулага года беларускія ўлады забаранілі правядзенне больш за 100 заяўленых пікетаў у 41 горадзе Беларусі. Пікеты планавалі правесці хрысціяне — супраць алкагалізацыі беларускага грамадства. Ніякай палітыкі. Але забаранілі. Каб чаго кепскага не атрымалася.

На самай справе, рэвалюцыі — гэта абавязковы элемент развіцця ўсякага грамадства. Вядома, можна ім супрацівіцца. Але гістарычная практыка паказвае: чым даўжэй цягнецца супраціў зменам, тым хутчэйшай, радыкальнай і жорсткай атрымліваецца наступная рэвалюцыя. Успомніце, якія пытанні задаваў Людовік XVI. «А навошта нам дэмакратыя?», «А што такое парламент?», «А навошта нам незалежныя газеты?», «Як гэта — усе грамадзяне роўныя?», «Што значыць — пазбавіць дваранства прывілеяў?», «Ой, а дзе гэта мая галава? Толькі што жа была тут, на плячах...»

Дык, можа, беларусам усё ж мае сэнс правесці сваю рэвалюцыю? Мірную і бяскроўную — як «Рэвалюцыя чырвоных гваздзікоў» у Партугаліі ў 1974–1976 гадах? Затое такая рэвалюцыя гарантавана ўключыць «сацыяльныя ліфты», якія цяпер прастойваюць. І мы ўбачым новых асобаў — ва ўладзе, у бізнэсе, у культуры. А то мне тэлевізар ужо 25 гадоў паказвае Ядвігу Паплаўскую з Аляксандрам Ціхановічам ды Міхаіла Мясніковіча. У апошняга хоць назвы пасадаў змяняюцца, хай і нячаста...

**Чамусьці ў нас прынята лічыць, што рэвалюцыя — гэта абавязкова матросы з вінтоўкамі або дзяўчына топлес са сцягам. І абавязкова — Майдан, вялікія і жудасны, які ўсё бачылі толькі па тэлевізары, але якога — на ўсякі выпадак — баяцца-баяцца-баяцца**

### P.S.: Беларуская эклектыка

*Вось вельмі сімвалічная фатаграфія, выпадкова зробленая ў адным з куткоў Мінска. Вуліца імя Крапоткіна — вядомага рэвалюцыянера-анархіста, стваральніка ідэалогіі анарха-камунізму. У будынку на пярэднім плане — капліца і крама праваслаўнай літаратуры. Культ Хрыста. У будынку на заднім плане — некалькі камерцыйных банкаў. Культ Залатога Цяля. З усім гэтым Крапоткін якраз і змагаўся. А зараз уся гэтая эклектыка ўжываецца ў галовах беларусаў. Сімвалічна.*



# Футуралогія пятага тэрміну

Алег НОВІКАЎ

**Не паспела закончыцца электаральная кампанія, як эксперты паставілі на канвеер магчымыя сцэнары развіцця Беларусі на бліжэйшую пяцігодку. Прапануем агляд першых прагнозаў замежных аналітыкаў.**



Паколькі розных палітпрадказанняў сапраўды шмат, сканцэнтруемся на выяўленні новых фактараў, якія, на думку экспертаў, пачнуць уплываць на нашу рэчаіснасць бліжэйшым часам. Тым самым, падрываючы цяперашні беларускі застой, задаючы трэнды да зменаў, магчыма, і не заўсёды пазітыўных.

Перш за ўсё, на сітуацыю ў Беларусі будуць уздзейнічаць наступствы рэвізіі стаўлення да нашага рэжыму ў Еўропе. Так, нямецкая «Süddeutsche Zeitung» лічыць, што на імідж беларускага рэжыму ў Еўропе ў наступнай пяцігодцы будзе ўплываць новая стратэгія Захаду адносна нашага рэгіёну. «Перад пагрозай «рускай агрэсіі» супраць Украіны Аляксандр Лукашэнка ўжо не падобны на «апошняга дыктатара Еўропы» і, паводле думкі еўрапейскіх палітыкаў, павінен стаць «буферам» супраць Расіі і «партнёрам» у вырашэнні украінскага канфлікту», — піша нямецкая СМІ, аднак канкрэтыкі, якім будзе фармат беларуска-расійскіх адносін і які будзе яго ўплыў на паўсядзённую атмасферу, не прапануе.

«Вестэрнізацыя» Беларусі, на думку аўтара парталу «Українська правда», цалкам зменіць геапалітычны профіль краіны і паслужыць каталізатарам унутрыпалітычнай лібералізацыі: «Той, хто лічыць, што Захад ідзе на саступкі Лукашэнку, памыляецца. Лукашэнка даўно сам пачаў першым рабіць крокі насустрач Захаду. Начны кашмар Пуціна спраўджваецца: Лукашэнка — верны сатэліт Расіі, — кажа, што робіць усё, што пажадае... Захад! «Скрэпы» трашчаць. Лукашэнка топчацца па іх і па меры сваіх здольнасцяў скрабе акно ў Еўропу. (...) Потым будзе чарга Захаду — Еўрапейскі саюз адменіць санкцыі супраць Беларусі на чатыры месяцы пасля прэзідэнцкіх выбараў, калі ўсё будзе хаця б адносна спакойна. Такім чынам, у Беларусі павінна пачацца пэўная палітычная адліга».

Расійская аналітычная супольнасць у большасці пагаджаецца, што нас чакае эра змякчэння ў адносінах па лініі РБ—ЕС, аднак гэты працэс не будзе мець сістэмны характар, у тым ліку і з-за пазіцыі Масквы. «Известия» адзначаюць: «Відавочна, што ў Маскве будуць уважліва сачыць за працэсам нармалізацыі адносін паміж Беларуссю і Захадам, не дазваляючы беларускаму кіраўніцтву пераходзіць пэўныя чырвоныя лініі». А вось выданне «Невское время» анансуе эпоху дыпламатычных арэляў: «Зараз Лукашэнку давядзецца манеўраваць паміж ЕС і Расіяй, спрабуючы задаволіць абодва бакі. Еўропа будзе даваць пэўныя авансы Лукашэнку, патрабуючы ад яго ў адказ выразнай дэманстрацыі антырасійскай пазіцыі — прычым не толькі на словах».

Памыляецца той, хто думае, што такі «геапалітычны ванька-ўстанька» не паўплывае на ўнутраную палітыку. На думку эксперта Яўгеніі Мінчанка, камментар якой публікуе «РИА Новости», «спробы Лукашэнкі па-ранейшаму лавіраваць паміж Расіяй і Захадам звязаныя з небяспечнай тэндэнцыяй, якая прыкметная апошнія некалькі гадоў у Беларусі — гэта актыўныя намаганні Лукашэнкі фліртаваць з ідэалогіяй беларускага нацыяналізму ў выпадку канфліктаў з Масквой».

Другім фактарам, які адаб'ецца на краіне, будзе новая фаза эканамічнай стагнацыі — следства нізкіх коштаў на энерганосьбіты і санкцый супраць РФ. Расійская прэса мае надзею, што праблемы Беларусі прымусяць яе да больш дынамічнай інтэграцыі ў еўразійскі прамысловы комплекс. Так, сайт «RuBaltic» піша: «Беларусь захавала высокую долю прамысловасці ў структуры эканомікі. Аднак ва ўмовах непазбежнай выпрацоўкі савецкага патэнцыялу развіцця неабходна вызначыцца з курсам далейшага шляху краіны. Характэрна, што такія ж мадэрнізацыйныя задачы стаяць цяпер перад Расіяй і Казахстанам, з якімі Беларусь будуе Еўразійскі саюз. Таму адной з асноўных умоў для вырашэння задач, якія стаяць перад беларускай эканомікай, з'яўляецца аб'яднанне намаганняў з саюзнікамі ў еўразійскай інтэграцыі».

У сваю чаргу, украінскія каментатары прагназуюць асцярожнае стаўленне Мінску да сумесных еўразійскіх праектаў. «Складанасць сітуацыі, у якой сёння знаходзяцца партнёры Расіі па Мытным саюзе (МС), разумецца ўсімі. Рызыка «гібрыдызацыі» расійскага ўплыву ў гэтых краінах пры змене рэжымаў, якія яшчэ зусім нядаўна лічыліся аўтарытарнымі, узрастае ў разы. Беларусь звязаная з РФ не толькі вузамі МС, але і Саюзнай дзяржавы, залежная эканамічна, плюс лічыцца «лёгкай здабычай» для Крамля, а ці мала якія і дзе «перамогі» ён захоча пачаць дэманстраваць пасля Сірыі», — піша «Українська газета».

Большасць экспертаў згодныя, што ў любым выпадку цяжкая сітуацыя ў эканоміцы будзе штурхаць урад на непапулярныя рэформы. Такі курс абвострыць сацыяльную напружанасць як у краіне, так і ў праўладных эшалонах. Некаторыя ў сувязі з гэтым прагназуюць канфлікт паміж гарантам і яго празаходнім атачэннем. «Калі ў Беларусі здарыцца Майдан, ён будзе арганізаваны бліжэйшымі паплечнікамі Лукашэнкі, той элітай, якую ён і выгадаваў. Калі эліта на нейкім этапе вырашыць, што трэба мяняць Лукашэнку на больш зручнага лідара, каб разгарнуць краіну на Захад, а не проста частковa нармалізаваць адносіны, то сцэнар Майдана, хутчэй невялікага і бяскроўнага, можа быць запатрабаваны», — лічыць украінскае выданне «Экспресс».

> **Перад пагрозай «рускай агрэсіі» Аляксандр Лукашэнка ўжо не падобны на «апошняга дыктатара Еўропы**

Шэраг выданняў звяртае ўвагу на яшчэ адзін фактар. Гэта — нестабільнасць ва Украіне, што можа быць штучна або стыхійна імпартаваная ў РБ. «Хаатызацыя Украіны — гэта праблема для ўсіх яе суседзяў, і ў першую чаргу — для Расіі і Беларусі, куды бягуць больш за ўсё ўкраінскіх бежанцаў. Гэтая і многія іншыя агульныя праблемы найбольш эфектыўна могуць быць вырашаны таксама сумесна. Але для такога хуткага і эфектыўнага вырашэння агульных праблем павінна быць цвёрдая і паслядоўная пазіцыя, пры якой удзел у інтэграцыйных праектах, развіццё саюзных стасункаў Расіі і Беларусі — гэта безумоўная каштоўнасць і палітычны прыярытэт», — разважае «RuBaltic».

Такім чынам, асноўнымі выклікамі, як мінімум для першых месяцаў пятага тэрміну АГЛ, стануць неабходнасць пошуку і выпрацоўкі формулы новага фармату адносін з ЕС, спробы Масквы ўтрымаць РБ у сваёй арбіце ўплыву, пагроза імпарту анархіі з Поўдня, эканамічны крызіс. Пакуль агульнага комплекснага малюнку, як улады будуць спраўляцца з усімі праблемамі, шчыра кажучы, няма. У любым выпадку, выклікі сапраўды значныя, і неяк рэагаваць на іх давядзецца.

А напрыканцы ўзгадаем яшчэ адзін незвычайны прагноз, які прапануе брытанскі «The Telegraph». На думку выдання, пяты тэрмін (а магчыма яшчэ 2–3 наступных тэрмінаў АГЛ) пройдзе пад знакам падрыхтоўкі аперацыі «пераемнік». «Прэзідэнт будуе планы пераўтварэння свайго рэжыму ў дынастыю па паўночнакарэйскім узоры, прызначыўшы 11-гадовага сына Мікалая сваім пераемнікам», — піша «The Telegraph».

# Доўгі шлях да дэмакратычных выбараў

Генадзь КЕСНЕР

**Адразу пасля выбраў міжнародныя назіральнікі ад Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ, Парламенцкай асамблеі АБСЕ і Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы агучылі папярэднюю ацэнку прэзідэнцкіх выбараў.**

Міжнародныя назіральнікі, хоць і адзначылі некаторы прагрэс з боку ўладаў, але і не хавалі расчаравання.

Як адзначыў спецыяльны каардынатар і кіраўнік місіі кароткатэрміновага назірання АБСЕ Кент Гэрстэдт, выбары чарговым разам паказалі, што краіне давядзецца прайсці яшчэ вельмі доўгі шлях, пакуль яна зможа выконваць свае абавязальніцтвы ў рамках АБСЕ па правядзенні дэмакратычных выбараў. Для правядзення комплексных рэформаў патрэбна палітычная воля.

«Мы вітаем нядаўняе вызваленне палітычных зняволеных, і мы спадзяемся, што гэта пакладзе канец падобнага кшталту пераследам, што ў будучыні такое не будзе мець месца, і гэта стане перагорнутай старонкай у гісторыі Беларусі, — сказаў Кент Гэрстэдт. — Запрашэнне АБСЕ і СЕ назіраць за выбарамі, а таксама вызваленне палітвязняў давала нам істотную надзею на прагрэс у частцы выбараў. На жаль, гэтая надзея не спраўдзілася».

З улікам папярэдніх абяцанняў, ён асабліва расчараваны тымі недахопамі, якія былі выяўлены падчас падліку галасоў. Па словах кіраўніка кароткатэрміновай назіральнай місіі АБСЕ, ёсць яшчэ шэраг пытанняў і праблем. Гэта сістэма рэгістрацыі выбаршчыкаў, якая дапускала адвольнасць і магчымасць галасавання на ўчастках без дастатковых юрыдычных мераў перасцярогі. Гэта і адсутнасць дакладных і празрыстых прававых крытэрыяў адбору чальцоў тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісій, якія не былі інклюзіўнымі і знаходзіліся пад поўным кантролем і ў кампетэнцыі мясцовых улады.



Спісы выбаршчыкаў складаліся ўчастковымі выбаркамамі на падставе інфармацыі, прадстаўленай мясцовымі ўладамі; адсутнічаў адзіны спіс выбаршчыкаў, што не забяспечвае неабходныя захады перасцярогі перад шматразовай рэгістрацыяй выбаршчыкаў.

Але асабліва расчараванне ў назіральнікаў выклікала тое, што было немагчыма адсочваць падлік галасоў. «Гэта недапушчальна — трымаць назіральнікаў далёка ад падліку галасоў, закрываць агляд тых сталоў, на якіх вядзецца падлік галасоў, каб назіральнікі не маглі бачыць тое, што адбываецца. Гэта вельмі сур'ёзная праблема, — падкрэсліў Кент Гэрстэдт. — Адсутнасць у камісіях прадстаўнікоў апазіцыі ў спалучэнні з немагчымасцю назіраць за падлікам галасоў азначае вельмі негатыўныя наступствы ў частцы празрыстасці працэсу. Калі мы азнаёміліся з вынікамі і высновамі нашых назіральнікаў, мы былі вельмі расчараваныя».

Са свайго боку, прадстаўнік БДІПЧ АБСЕ пасол Жак Фор звярнуў увагу на залежнасць выбарчых камісій ад уладаў, на выкарыстанне адміністрацыйнага рэсурсу на карысць дзейнага кіраўніка дзяржавы.

Прадстаўнік Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Рэха Дэнемеч выказаўся за неадкладнае рэфармаванне беларускага заканадаўства дзеля забеспячэння канкурэнтнага асяроддзя падчас выбараў.

Па словах Жака Фора, канчатковы даклад па выніках міжнароднага назірання ад АБСЕ будзе гатовы праз два месяцы. Фор сам збіраецца прыехаць у Мінск, каб агучыць гэты дакумент.

Усяго ў назіранні ад АБСЕ ўзялі ўдзел каля 500 назіральнікаў з 30 краінаў.




## 25 КАСТРЫЧНІКА, НЯДЗЕЛЯ

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.15** Меладрама «Каханне з прабіркі».
**09.00** Навіны.
**08.10** Камедыйны серыял «Сваты-3» (Украіна).
**09.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера-2».
**10.40** 50 рэцэптаў першага.
**11.20** XXL WOMAN TV.
**00.00** Навіны.
**00.10** Навіны.
**00.35** Зона Х.
**13.05** Вялікі рэпартаж.
**13.40** Скрынка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Меладрама «Тарыф» Шчаслівая сям'я «.
**17.20** Меладрама «Лялькі».
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Клуб рэдактараў.
**22.35** Навіны надвор'я.
**22.55** Меладрама «Пятровіч».
**00.45** Камедыйны серыял «Як выйсці замуж за мільянера-2».

**НТ**

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субцітрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** шалапутнымі нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.00** Нашы навіны.
**12.35** Разам з дэльфінамі.
**14.20** Мастацкі фільм «Як выкрасці мільён».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Геніі і злыдні».
**17.00** Цюцелька ў цюцельку.
**20.00** Контуры.
**21.05** Голас.
**21.20** Справа прынцыпу.
**23.20** Што? Дзе? Калі ?. Восеньская серыя.
**00.25** Мастацкі фільм «Метад».

**СТВ**

**06.25** Камедыйны серыял «Афрамасквіч».
**06.50** Калі ласка, скардзіцеся.
**07.10** Аўтапанарама.
**07.35** «Кіно»: «Троя».
**10.15** Чысты праца.
**11.00** Вялікі сняданак.
**11.40** «Салдаты 6». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Кіно»: «Пунсовы першацвет».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.55** «Аўтапанарама».
**17.20** Ваенная таямніца.
**19.30** Тыдзень.
**20.25** Кіно: «Груз».
**22.20** Званая вячэра.
**00.10** «Кіно»: «Пунсовы першацвет».
**02.25** Дакументальны праект.

**2**

**07.05** Прыгодніцкі анімацыйны серыял «Сябры анёлаў» Італія.
**08.05** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**10.00** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае стайл-шоў (Украіна) .10.30 Тэлебарометр.
**11.10** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Пяцёрачка.
**12.05** Разбуральнікі міфаў.
**13.05** Камедыйны серыял «Мая выдатная няня» (Расія).
**15.15** Баявік «Людзі ў чорным 2»
**16.55** Баявік «Тэрмінатар: Няхай прыйдзе выратавальнік».
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.10** Іранічны дэтэктыў «Метад Фрэйда» (Расія).
**22.00** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**23.25** Хачу ў тэлевізар!
**23.30** Містычны трылер «Прывіды» (Вялікабрытанія).
**00.35** Камедыйнае фэнтазі «Усемагутныя Джонсаны».

**3 БЕЛАРУСЬ**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Нестар Бурма». Крымінальны дэтэктыў (Францыя, 1992 г.).
**09.40** «Знахар». Фільм.
**11.55** Подых струн.
**12.40** Наперад у мінулае.
**13.05** Сто песень для Беларусі.
**14.00** «Калейдаскоп».
**14.10** Справы фамільныя.
**14.40** Музеі Беларусі.
**15.05** Вялікая музыка для Вялікай Брытаніі.
**15.45** «Увесь я». Фільм.
**17.15** Ты - мая мелодыя.
**17.55** «Калейдаскоп».
**18.55** «Георг» Фільм.
**20.40** «Калыханка».
**21.00** Юбілейны вернісаж Ільі Рэзніка.
**23.55** Леанід Млечын прадстаўляе.
**00.35** «Калейдаскоп».

**5 БЕЛАРУСЬ**

**07.55** Тэніс. Турнір ВТА. Кубак Крамля.
**09.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**10.00** Тэніс. Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**12.05** Гандбол.
**13.35** Хакей для ўсіх.
**14.20** Авертайм.
**14.55** Футбол. Шахцёр - Віцебск.
**17.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Манчэстар Юнайтэд - Манчэстэр Сіці.
**19.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Ліверпуль - Саўтгэмптан.
**21.10** Сучаснае пяцібор'е.
**21.45** Тэніс. Выніковы турнір ВТА. Сінгапур.
**23.45** PRO спорт. Навіны.
**23.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Сандэрлэнд - Ньюкасл.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**08.00** Студыя «Белсат».
**08.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.50** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Чаму трэба гаварыць на роднай мове.
**08.55** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**09.05** Між намі, буслямі, мультсерыял.
**09.30** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на падзеі тыдня вачыма журналістаў радыё «Свабода».
**10.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.30** Беларусы ў Польшчы.
**10.50** Два на два (тэледыскусія): Іван Шыла і Мікалай Дземідзенка: Актывізацыя «Маладога фронту».
**11.20** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**11.50** Загадкі беларускай гісторыі: Загадкі Лаўрышаўскага манастыра.
**12.00** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Беражы вочы.
**12.10** Цюхця, што ты за стварэнне?!, мультсерыял.
**12.15** Між намі, буслямі, мультсерыял.
**12.45** Машына зменаў, тэлесерыял.
**13.15** Мова нанова.
**13.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.15** Апошнія сакрэты Трэцяга Рэйху, дак. серыял: Архітэктар Гітлера.
**15.05** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**15.35** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на падзеі тыдня вачыма журналістаў радыё «Свабода».
**16.10** Форум (ток-шоу): Карупцыя назаўсёды!
**16.55** І помста прыйдзе, крымінальная драма.
**18.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.25** Кішынёў ад золку да змяркання, д/ф.
**20.10** Невядомая Беларусь: Кантрабандысты, д/ф.
**20.45** Сведкі: Тутэйшыя.
Літаратурная суполка «Тутэйшыя». Першыя «Дзяды» ў Менску ў 1987 г.
**21.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.30** Пад каўпаком, д/ф, рэж. Марк Бэрн і Роб Дэніс, 2013 г., Ірландыя.
Якою паўстае Беларусь у вачах ірландскіх дакументалістаў: тут спецслужбы дасюль носяць сумнавядомую назву КГБ, а ладжанне публічнага сходу можа прывесці і арганізатараў, і ўдзельнікаў на лаву падсудных. Фільм пераносіць нас з мітынгаў апазіцыі ў правіцыю і распавядае пра жыццё ды лёсы бізнесоўца Юрыя, вяскоўкі Людмілы, апазіцыйнага актывіста Франака Вячоркі і журналістаў Эдуарда Мельнікава ды Віктара Марціновіча. Іхныя гісторыі, поўныя сведчанняў брутальнасці бюракратыі, паказваюць, як блізка і адначасова далёка Беларусь ад Еўропы.
**22.50** Кінаклуб: Кінаклуб: «Багі і пачвары».
**23.00** Багі і пачвары, м/ф.
**00.45** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**01.35** Новая Зямля: Архіпелаг страху, д/ф.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 625-57-51.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

Алег НОВІКАЎ

**Падаецца, не засталося ніводнага спартовага мерапрыемства, арганізатары якога не былі б абвінавачаныя ў карупцыі або іншым злачынстве. Цяпер дайшла чарга і да Сусветных Індзейскіх Гульняў, якія распачнуцца 24 кастрычніка.**



## 75 пляменаў Бразіліі выказалі падтрымку Guarani-Kaiowa ў іх барацьбе за свае тэрыторыі

# Індзейцы супраць алімпіяды індзейцаў!

У шматлікіх вядомых мастацкіх творах фіксуецца непадабенства маральнага кодэксу індзейцаў і белых каланізатараў. Маўляў, калі ў каланізатараў пануе культ залатога цяляці, дык індзейцы застаюцца вернымі такім каштоўнасцям, як сумленнасць, мужнасць, непадкупнасць. Магчыма, таму, калі ў свеце паставў рух індзейскага спорту, на яго глядзелі як на альтэрнатыву старым спартовым федэрацыям, якія на той момант ужо патанулі ў карупцыі і кар'ерызме.

Увогуле, летапіс індзейскіх алімпіяд пачаўся ў Бразіліі, дзе пасля прыходу да ўлады левай Партыі працоўных, было ўзнята пытанне тубыльцаў. У 1991 годзе пад дахам ураду лейбарыстаў быў створаны Міжплямённы савет тубыльцаў, які стаў парасонавай структурай для ўсіх індзейскіх грамадзянскіх ініцыятыў. Акрамя адукацыйных, экалагічных праектаў паўстала ідэя правядзення індзейскай алімпіяды.

Першая алімпіяда прайшла ў 1996 годзе ў штаце Гаяс у Цэнтральна-заходнім рэгіёне Бразіліі. Адначасова быў абраны выканкам Індзейскіх Гульняў, які ўзначаліў Маркас Тэрэна. З таго часу падпарадкаваная яму арганізацыя правяла 14 гульняў, у якіх удзельнічалі прадстаўнікі каля 150 індзейскіх кланаў (усяго ў Бразіліі пражывае 230 індзейскіх плямёнаў). Прычым паступова да бразільскіх індзейцаў-спартсменаў пачалі далучацца атлеты з Аргенціны, Венесуэлы, Французскай Гаяны, Калумбіі і нават з ЗША і Канады. Вялізарны медыйны эфект меў удзел у гульнях 1999 года каманды ад амазонскага племені Matis, правадыры якога за 20 гадоў да таго прынялі рашэнне ўвогуле не мець кантактаў з цывілізаваным светам. Толькі спорт прымусіў іх вярнуцца да цывілізацыі.




**І тут выбухнуў скандал. Krahos і Apinajes — два бразільскіх племені — адмовіліся дасылаць сваіх прадстаўнікоў у Токанцінс**

Самі гульні, сапраўды, падаваліся фестывалем аматарскага спорту, альтэрнатыўнага камерцыйным спартовым мерапрыемствам. Формула спаборніцтваў не прадугледжвала грашовых прэмій за перамогу, а самі ўзнагароды для пераможцаў уяўляюць, як правіла, якія-небудзь вырабы мясцовых рамеснікаў. Незвычайныя і катэгорыі спаборніцтваў, у якіх разыгрываюцца ўзнагароды. Сярод 16 дысцыплінаў, акрамя знаёмых нам спрынту або веславаня на каноэ, прысутнічаюць вельмі экзатычныя віды спорту, напрыклад, стральба з духавога ружжа або варыянт футболу, у якім мяч можна біць выключна каленам.

За часы існавання гульняў іх роля вырасла настолькі, што ў іх пачалі нават браць удзел сябры нацыянальных зборных. Не дзіўна, што паступова апетыты ў арганізатараў раслі, і нарэшце было вырашана замахнуцца на сусветную індзейскую алімпіяду. Гульні павінны распачацца 24 кастрычніка ў штаце Токанцінс (Tocantins), на іх чакаецца рэкордная колькасць удзельнікаў — каля 2000 спартсменаў. Пры гэтым Гульні на гэты раз маюць іншую канцэпцыю. На іх будуць прадстаўленыя малыя народы не толькі Амерыкі, аднак таксама Расіі, Афрыкі, Аўстраліі. Пра высокі статус Гульняў сведчыць і роля ААН, якая ўзяла на сябе частку іх фінансавання.

І тут выбухнуў скандал. Krahos і Apinajes — два бразільскіх племені — адмовіліся дасылаць сваіх прадстаўнікоў у Токанцінс. «Мы не можам удзельнічаць у мерапрыемстве, якое фінансуецца ўрадам, прадстаўнікі якога стаяць за генацыдам нашых братоў з племені Guarani-Kaiowa ў штаце Мату Гроса да Сюл (Mato Grosso do Sul) і ў іншых раёнах», — пішуць правадыры Krahos і Apinajes у спецыяльнай заяве. Аўтары тэксту заклікалі іншыя плямёны далучыцца да іх байкоту.

Гутарка ідзе пра канфіскацыю ўрадам у 2012 годзе індзейскіх зямель, што традыцыйна належалі Guarani-Kaiowa. За тое, каб індзейцы пакінулі гэтыя тэрыторыі, урад прапанаваў ім кампенсацыю памерам у 2,5 мільёна долараў. Сума, на першы погляд, вялікая, аднак індзейцы не згодныя. У тым ліку таму, што лічаць канфіскаваныя землі сакральнымі. Калі верыць няўрадавым арганізацыям, што працуюць у рэгіёне, у адказ на нязгоду дамаўляцца па-добраму дзяржава пачала кампанію па крымінальзацыі абарыгенаў у мясцовых СМІ. Акрамя таго, даволі часта дзяржаўныя агенты дапамагаюць фірмам, якія намагаюцца выціснуць індзейцаў з іх зямель, у тым ліку праз забойствы і фізічны гвалт. Апошні інцыдэнт меў месца 24 верасня, калі было паранена восем індзейцаў.

Пасланне ў абарону праў Guarani-Kaiowa фактычна стала бомбай пад Гульні. Раней яшчэ 75 плямёнаў Бразіліі выказалі падтрымку Guarani-Kaiowa ў іх барацьбе за свае тэрыторыі. Калі якая-небудзь частка з тых 75 кланаў далучыцца да байкоту Гульняў, іх імідж будзе значна дыскрэдытаваны. І верагоднасць такога кроку даволі высокая з-за агульнай атмасферы ў Бразіліі, кіраўніцтва якой з-за карупцыі і крызісу стала рэкардсменам антыпапулярнасці. Калі меркаваць па маўчанні, афіцыйныя бразільскія колы пакуль не ведаюць, як рэагаваць на пагрозу байкоту. Між тым, часу да адкрыцця Гульняў застаецца ўсё менш.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Сёння ўжо не з'яўляецца сакрэтам тое, што рэпрэсіі пасля 19 снежня 2010 года мелі на мэце не толькі масавае застрашванне і пакаранне палітычна няўгодных, але і іх масавую вярбоўку. Акрамя гэтага, адной з важных задач з'яўлялася ўдасканаленне і легендаванне (стварэнне максімальна праўдападобнай легенды) для асоб, якія негалосна ўжо супрацоўнічаюць са спецслужбамі, а таксама кадравых афіцэраў КДБ, якія працуюць у апазіцыйным асяроддзі. Апошнім апазіцыйным палітыкам Беларусі, які не працаваў «пад кантролем», быў Зянон Пазьняк.

**Delfi (Літва)**

Вынік выбараў быў вядомы загадзя, галоўным пытаннем было не тое, ці абярушь Лукашэнку, а ці захаваецца апазіцыя? Яна не захавалася, таму што для таго, каб выступаць у палітыцы, трэба мець хоць нейкую палітычную прапанову. На гэтых выбарах мы назіралі нігіляцыю любых палітычных прапаноў, акрамя прапановы Лукашэнкі, які параіў беларусам захаваць статус-кво.

**«Обещания» (Расія)**

На нейкім этапе кар'ера Лукашэнкі скончыцца тым, што яго зрынуць яго ж блізкія паплечнікі — альбо ў разліку на празаходні паварот Беларусі, што вельмі верагодна, альбо, можа быць, у разліку на больш прарасійскую палітыку. Таму што сістэма Лукашэнкі мае на ўвазе падвешаны стан паміж Захадам і Расіяй і магчымасць правядзення шматвектарнай палітыкі. І Захад, і Расія зацікаўлены ў зняцці Лукашэнкі і ў тым, каб паставіць больш лаяльнага палітычнага лідара. Тым не менш, становішча Лукашэнкі вельмі ўстойлівае. Аднак на нейкім этапе ім будзе дапушчана памылка, і Лукашэнка будзе зрынуты сваімі паплечнікамі. Але калі гэта адбудзецца, цяпер сказаць цяжка. Думаю, пакуль можна сцвярджаць, што гэта будзе не хутка.

**ФАН (Украіна)**

Трэба разумець, што ізаляцыя Беларусі шкодзіць як ёй самой, так і Расіі. Мець партнёра, у якога разарваныя адносіны з бліжэйшымі суседзямі, няправільна, таму зняцце эканамічных і палітычных санкцый — рацыянальны крок. Трэба аднаўляць камунікацыю, рэспубліцы нельга жыць за «калючым дротам», інакш узнікае дэградацыя і сіндром «местачковасці».

**«Аргументы и Факты» (Расія)**

Важна разумець, што цяпер у Беларусі з'явіўся другі лідар — Святлана Алексіевіч. Яна атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры, і да яе будуць прыслухоўвацца на міжнароднай арэне. Для Лукашэнкі гэта вялікая асабістая трагедыя. Ён некалькі гадзін думаў, віншаваць яе з перамогай ці не. Вядома, для яго гэта быў шок. Лукашэнка баіцца з'яўлення такіх лідараў, таму што Беларусь у міжнароднай прасторы асацыюецца з імем Лукашэнкі. Пасля з'яўлення нобелеўскага лаўрэата яго манаполія знікае. Алексіевіч не прэтэндуе на ролю палітыка, яна будзе з'яўляцца негалосным лідарам, які будзе гучаць, як гучаў Салжаніцын, як гучаў Бродскі на міжнароднай арэне. І таму тут будзе, верагодна, пэўнага роду нават негалосны канфлікт паміж Лукашэнкам і Алексіевіч.

**Правда.Ру (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Індыйскае кіно бэсціць узбекаў

Узбекскія чыноўнікі забаранілі на 99-й серыі трансляцыю на мясцовым канале «Ешлар» індыйскага серыялу «Кахаю цябе» (у расійскім пракаце ён называўся «Толькі ты — мая каханая»). «Ешлар» дэманстраваў серыял з вясны, і кіно настолькі спадабалася ўзбекскім гледачам, што нават нованароджаных дзяўчынак сталі называць у гонар галоўнай гераіні — Ішані. Аднак папулярнасць серыялу не спыніла цэнзараў, якія выявілі неадпаведнасць нацыянальнага менталітэту ўзбекаў і таго, што адбываецца на экране. Ведамства, якое адказвае за менталітэт, турбуе тое, што «Кахаю цябе» ўкараняе ў галовы моладзі лёгкае стаўленне да жыцця, звычку дзяцей ашукваць сваіх бацькоў, дашлюбныя адносіны хлопца і дзяўчыны». Эксперты ў ступары ад такіх аргументаў, аднак значна больш баяцца, што гэта толькі пачатак вайны супраць іншаземнага культурнага ўплыву. Літаральна пару тыдняў таму ва Узбекістане жаніхам і нявестам забаранілі танчыць вальс. А яшчэ раней абмежавалі колькасць прысутных на вяселлях да 300 чалавек.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### АЎСТРЫЯ. Рэвалюцыя не прайшла

«Кастрычніцкая рэвалюцыя» — так называў сваю муніцыпальную выбарчую кампанію ў Вене Хайнц-Крысціян Штрахе, лідар права-папуліцскай Свабоднай партыі Аўстрыі (FPO). Вынікам «кастрычніцкай рэвалюцыі» мусіла стаць адхіленне ад улады сацыял-дэмакратаў, якія кіруюць аўстрыйскай сталіцай з 1945 года. Шансы на выбарах, якія адбыліся 11 кастрычніка, у Штахе былі вельмі добрыя. Крызіс мігрантаў, што зачапіў Аўстрыю, узняў папулярнасць яго праграмы, якая называлася «Кантроль над межамі: стоп — нелегальнай міграцыі». У выпадку прыходу да ўлады правыя абяцалі вырашыць праблемы 100 тысяч гарадскіх беспрацоўных за кошт грошай, што вызваляцца пасля дэпартацыі нелегалаў. Аднак у выніку Вена вытрымала атаку правых папуліста́ў. FPO прыйшла да фінішу толькі другой з 31 працэнтамі галасоў выбаршчыкаў. Хаця гэта на пяць пунктаў больш, чым на папярэдніх выбарах. Пераможцамі зноў сталі эсдэкі (39 працэнтаў). Нягледзячы на тое, што гэта для іх самы кепскі вынік у гісторыі венскіх муніцыпальных выбараў, ружовыя застануцца пры ўладзе.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ПАР. Прэторыя супраць Гаагі

Афрыканскі нацыянальны кангрэс (ANC) — урадавая партыя Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі — прыняў рашэнне пра пачатак працэдуры выхаду краіны з-пад юрысдыкцыі Міжнароднага суду ААН, які, як вядома, месціцца ў Гаазе. Такое рашэнне было прынятае пасля скандалу, што быў выкліканы чэрвеньскім візітам суданскага прэзідэнта Амара аль-Башыра. Амар аль-Башыр, які наведаў саміт Афрыканскага саюзу, знаходзіцца ў росшуку ў Гаазе за генацыд у правінцыі Дарфур. Аднак улады Прэторыі адмовіліся затрымліваць аль-Башыра, нягледзячы на патрабаванне мясцовага пракурора. Гісторыя выклікала адмоўную рэакцыю ў свеце і грамадзянскай супольнасці ПАР. На думку кіраўніцтва ANC, паводзіны суддзяў Гаагскага трыбуналу сведчаць пра тое, што арганізацыя стала інструментам у палітычных гульнях. Асобы, адказныя за міжнародныя адносіны ў ANC, таксама лічаць, што існуе "афрыканская павестка, якая тычыцца выключна афрыканскіх краін". Канчатковае рашэнне аб выхадзе ПАР з-пад юрысдыкцыі Гаагі павінен прыняць парламент, дзе ANC мае абсалютную дэпутацкую большасць.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Саакашвілі рыхтуе тэракт?

Былы кіраўнік службы дзяржбяспекі Грузіі Іраклій Бацiашвілі выступіў з сенсацыйнай заявай, у якой папярэдзіў алігарха Бідзіну Іванішвілі (нефармальнага лідара ўрадавай партыі «Грузінская мара») пра магчымы замах на яго. Замах, быццам, рыхтуе актыў партыі «Нацыянальны рух», лідарам якой з'яўляецца Міхаіл Саакашвілі. «Я атрымаў гэту інфармацыю з надзейнай крыніцы... Прадстаўнікі былой улады, якія знаходзяцца ў эміграцыі, вядуць сур'ёзную працу для ліквідацыі Іванішвілі. Плануецца тэрарыстычны акт», — сказаў Бацiашвілі. Па яго словах, у Грузію для падрыхтоўкі тэракту ўжо прыбыла спецгрупа. Экспертная супольнасць асцярожна каментуе гучныя заявы дзяржбяспекі, хаця б таму, што адсунуць «Грузінскую мару» ад улады можна і без тэрактаў. Пакуль усе сацыялагічныя даследаванні сведчаць, што партыя Іванішвілі прайграе прызначаныя на наступны год парламенцкія выбары. Хутчэй за ўсё, за гэтай заявай стаць намер неяк аслабіць цяперашнюю пратэстную кампанію прыхільнікаў Саакашвілі, якія змагаюцца супраць закрыцця незалежнага каналу «Руставі–2», а таксама патрабуюць вызвалення асобаў, якія былі арыштаваныя за акцыі ў падтрымку каналу. З «Нацыянальным рухам» салідарныя зараз нават партыі, якія ў свой час былі саюзнікамі «Грузінскай мары».

**Паводле грузінскай прэсы**



# Дзень іспанскага свету

Алег НОВІКАЎ

**12 кастрычніка Іспанія адсвяткавала Fiesta Nacional (ісп.: Нацыянальнае свята), або Día de la Hispanidad (Дзень іспанскага свету). Гэта галоўнае свята прыхільнікаў адзінай і непадзельнай Іспаніі, сведкам святкавання якога ў Барселоне стаў журналіст НЧ.**

Уадрозненні ад Беларусі, у Каталоніі ўсё яшчэ цёпла. Тэмпература паветра пакуль не апускаецца ніжэй за 20 градусаў. Не дзіўна, што большасць удзельнікаў маніфестацыі з нагоды Дня іспанскага свету, якія сабраліся ў мінулы панядзелак на барселонскай Плошчы дэ Грасія, былі апранутыя вельмі лёгка, і толькі некаторыя захінаіліся ў дзяржаўныя іспанскія сцягі. Маніфестанты — пераважна людзі за 50 гадоў — адрываліся напоўніцу, скандавалі ў тым ліку пахабныя слоганы на адрас Артура Маса, каталонскага прэм'ера, лідара руху незалежнікаў. Асноўны лозунг гучыць для нашых вушэй вельмі арыгінальна: «Артур Мас — свіння, а Іспанія — адзіная краіна!»

Дарэчы, каб зразумець, адкуль узялася традыцыя святкавання Дня іспанскага свету, трэба ўзгадаць, што 12 кастрычніка 1494 года — дзень, калі Калумбам была адкрытая Амерыка. Гэты дзень адзін уплывовы прадпрымальнік прапанаваў зрабіць «Святам іспанскай расы» яшчэ ў 1913 годзе. Аднак афіцыйным святам у Іспаніі 12 кастрычніка стала толькі ў 1918 годзе. З часам гэты дзень стаў святочным і ў шматлікіх краінах Лацінскай Амерыкі. Праўда, у гэтых краінах 12 кастрычніка мае розныя назвы: ад закавырыстага — Дзень народаў і міжкультурнага дыялогу (Перу) да незразумелага, з улікам таго, што Калумб быў каланізатарам, — Дзень дэкаланізацыі (Балівія).

Але вернемся да маніфестацыі ў Барселоне, якая па ўсім шляху да галоўнай плошчы гораду — плошчы Каталоніі — суправаджалася слоўнымі дуэлямі з аматарамі незалежнасці, якія часам сустракаліся.

Палітычная атмасфера ў Каталоніі яшчэ не разрадзілася пасля выбараў 27 верасня. Нагадаем, што ў гэты дзень прайшлі выбары, на якіх прыхільнікі суверэнітэту не дабіліся абсалютнай большасці, аднак і праіспанскай партыі таксама не хапіла мандатаў, каб заблакаваць рух да суверэнітэту.

Таму падвешаная сітуацыя дасюль выклікае вострыя палітычныя эмоцыі. Што было заўважна і падчас маніфестацыі. Каб спрэчкі не перараслі 12 кастрычніка ў фізічнае супрацьстаянне, часам патрабавалася непасрэднае ўмяшанне арганізатараў. Яны заклікалі праз мегафоны не паддавацца на «спробы палітычнага перавароту з боку аматараў суверэнітэту».

Цікава, што ў 1926 годзе адзін прагрэсіўны іспанскі святар напісаў артыкул, у якім прапанаваў замяніць слова «раса» ў апісанні дадзенага свята на слова «Hispanidad», што і было зроблена ў 1935-м. Святкавалі 12 кастрычніка і ў часы Народнага Фронту, які пачаў даваць нацменам правы на аўтаномію. Аднак незалежніцкія і левыя партыі ставяцца да Día de la Hispanidad вельмі асцярожна. Хутчэй за ўсё, гэта тлумачыцца месцам, якое Дзень іспанскага свету займаў у афіцыйным календары падчас дыктатуры Франка.

У часы Франка 12 кастрычніка было амаль галоўным дзяржаўным святам у Іспаніі, у тым ліку таму, што ў гэты дзень таксама святкуецца Дзень боскай маці з Пілару — святой заступніцы Іспаніі. Таму пры Франка факт адкрыцця Амерыкі Калумбам падаваўся як знак з неба. Тое, што маленькія караблі Калумба дасягнулі Новага свету, тлумачылася як божая абарона іспанскай нацыі, прыналежнасць да якой накладае на кожнага іспанца шмат абавязкаў.

Але зноў вернемся да маніфестацыі 12 кастрычніка 2015 года. Пасля прыбыцця ў фінальную кропку маршрута — на плошчу Каталоніі — маніфестанты правялі невялікі мітынг з удзелам каталонскіх палітыкаў, якія арыентуюцца на Мадрыд. Праіспанскія трыбуны, імёны якіх наўрад ці нешта скажуць чытачам «Новага Часу», крытыкавалі незалежнікаў за пагрозы, якія яны нясуць простым каталонцам. З улікам салідная па ўзросту аўдыторыі, усё гэта трошкі было падобна на сумную палітніфармацыю ідэолагаў БТ для адпаведнага электарату. Цікава, што ў выступах прамоўцаў даставалася і лідарам партый, якія таксама выступаюць супраць каталонскай дзяржаўнасці. А ўся справа ў тым, што пакуль правы іспанскі лагер знаходзіцца ў стане перафарматавання, пасля апошніх каталонскіх выбараў набірае папулярнасць ліберальная партыя «Грамадзяне», якая падмінае кансерватараў.

Мітынг на Плошчы Каталоніі закончыўся даволі хутка. У тым ліку таму што сінхронна ў Мадрыдзе пачаўся вайсковы парад з нагоды Día de la Hispanidad. І ўсе хацелі яго пабачыць. Ніхто з прысутных не хаваў, што сталічны парад — дэманстрацыя сілы, адрасаваная каталонскім сепаратыстам, якія, пабачыўшы стройныя калоны вайскоўцаў, павінны адмовіцца ад сваіх намераў. Згортваючы штандарты і транспаранты, удзельнік акцыі пабеглі атрымліваць сваю порцыю імперскага наркотыку.

Між тым, месца, дзе яшчэ 15 хвілін таму гудзеў мітынг дзяржаўнікаў, акупавала звыклая публіка — тынейджары на скейтбордах, турысты, падазроныя асобы, якія прапаноўвалі турыстам забароненыя рэчы, бамжы, сямейныя пары з дзецьмі, якія выехалі адпачыць у цэнтр, закаханыя, музыкі... Адным словам, тое, што сапраўды называецца «іспанскі свет».

# Турызм і дыктатура

Алег НОВІКАЎ

**Навала заходніх турыстаў у Паўночную Карэю выклікала на Захадзе дэбаты пра палітычныя наступствы такіх падарожжаў.**





Упершыню Пхеньян пагадзіўся пусціць да сябе заходніх турыстаў у 2000 годзе. Іх колькасць вымяралася некалькімі сотнямі, што тлумачылася таксама тэхнічнымі цяжкасцямі. Яшчэ нядаўна кожны турыст або група турыстаў адразу пасля прыбыцця ў аэрапорт Пхеньяна атрымлівала гіда-перакладчыка, шафёра з аўто і куратара з мясцовай спецслужбы. Першы адказваў за экскурсіі, другі вазіў па турыстычных аб'ектах, а трэці назіраў за тым, каб госці не займаліся нечым крамольным і ўвогуле не выходзілі з гатэлю без адпаведнага суправаджэння.

Аднак з часам правілы трошкі лібералізавалі, што адразу адбілася на колькасці турыстаў. На цяперашні дзень штогод КНДР наведваюць каля пяці тысяч грамадзян заходніх дзяржаў. Акрамя іх тут на працягу года бываюць каля ста тысяч кітайцаў і шмат расіян з Далёкага Усходу (напрыклад, паўночныя карэйцы аганізуюць для расійскіх дзяцей летнікі). Сімвалічным прарывам стаў дазвол на ўдзел заходнікаў у пхеньянскім марафоне ў 2014 годзе.

На пачатку кастрычніка стала вядома, што да 2020 года ўрад КНДР плануе ўвогуле ўзняць колькасць наведвальнікаў да двух мільёнаў штогод. Агучаная лічба выклікала ў заходняй прэсе вялікія дэбаты — як ставіцца да паўночна-карэйскай турыстычнай індустрыі.

**Турысты могуць назіраць за «будаўніцтвам чучхейскага сацыялізму» на дыстанцыі, не ведаючы жахаў дыктатуры**

Абаронцы правоў чалавека даўно занепакоеныя тым, што такія ваяжы дапамагаць дыктатуры атрымаць легітымнасць на Захадзе. Сапраўды, большасць турыстаў вяртаюцца дахаты ў захапленні ад пабачанага ў КНДР сюррэалізму. Візіт у краіну Чучхе — гэта падарожжа ў часе ў 50-я гады мінулага стагоддзя, калі ў модзе былі камуністычныя таталітарныя рэжымы. Тут можна пабачыць дзяўчат з аўтаматамі, натоўп працоўных у аднатыпных робах, культ правадыроў на кожным кроку і адпаведныя масавыя рытуалы ў іх гонар. У наборы з усходняй экзотыкай гэта ўсе выглядае вельмі незвычайна.

Пры гэтым самі турысты могуць назіраць за «будаўніцтвам чучхейскага сацыялізму» на дыстанцыі, не ведаючы жахаў дыктатуры. Як правіла, турыста селяць у адзін са сталічных гатэляў, адкуль штодня возяць па розных атракцыёнах і месцах, звязаных з жыццём аднаго з Кімаў. Кантакты з тубыльцам, якія паводле падлікаў некаторых міжнародных арганізацый жывуць за 3–4 долара ў месяц, фактычна абмежаваныя і, як следства, не ўплываюць на агульнае пазітыўнае ўражанне ад КНДР.

Паўночнакарэйскі дысідэнт Джымін Канг, што жыве ў Лондане, наступным чынам апісвае стандартны ход думкі турыста, які наведаў КНДР: «Наведаўшы загадзя вызначаныя уладамі раёны і пагутарыўшы з загадзя прызначанымі людзьмі, у турыста складваецца неадэкватнае ўяўленне пра рэчаіснасць у КНДР. Ён думае, што Паўночная Карэя — не самае кепскае месца на планеце, хаця гэта бедная і слабаразвітая краіна. Аднак пры гэтым яна не з'яўляецца настолькі брутальным парушальнікам правоў чалавека, як сцвярджаюць праваабаронцы». Іншы дысідэнт-перабежчык увогуле робіць катэгарычную выснову: «Бум турызму ў Паўночную Карэю дае шанс дыктатуры існаваць і далей».

Паляпшэнне вобразу дыктатуры на Захадзе — гэта толькі частка праблемы турызму ў КНДР. Калі верыць тым людзям, каму пашанцавала збегчы з Паўночнай Карэі, наяўнасць заходніх турыстаў актыўна карыстоўваецца для ўнутранай прапаганды. На мясцовых каналах любяць паказваць замежнікаў, якія фатаграфуюцца на фоне манументаў стваральнікаў дыктатуры як доказ аўтарытэту паўночнакарэйскай мадэлі ў свеце.

У сваю чаргу, ёсць супрацьлеглая думка. Некаторыя палітолагі кажуць, што наплыў турыстаў-заходнікаў у вотчыну Кімаў дапаможа паступовай лібералізацыі краіны. Гэты тэзіс агучыў на старонках газеты «The Guardian» адзін з менеджэраў турыстычнага агенцтва, якое займаюцца турамі ў КНДР (дарэчы, падобныя агенцтвы з'яўляюцца сёння па свеце як грыбы пасля дажджу). Па словах тураператара, паслабленне паліцэйскага рэжыму ў КНДР, фрагментарная легалізацыя артэфактаў заходняй культуры, напрыклад, фігуры Мікі Маўса, гэта — вынік менавіта наплыву вялікай колькасці заходніх турыстаў.

Рост наведвальнікаў КНДР, па яго словах, таксама прымушае ўлады паступова пашыраць колькасць зон, куды дапускаюцца турысты. Паступова складаецца сітуацыя, калі кантраляваць камунікацыю паміж мясцовымі жыхарамі і замежнікамі становіцца проста немагчыма нават усімі рэсурсамі апарату дзяржбяспекі. Акрамя таго, агучваецца думка, што нават візуальная прысутнасць замежнікаў у КНДР нейкім чынам сімвалічна разбурае рэжым ізаляцыі, які падтрымлівае ўлада. Натуральна, узгадваецца вопыт СССР і іншых краін Усходняга блоку, дзе ў часы халоднай вайны менавіта гатэлі з замежнымі турыстамі былі кропкамі, дзе адбываўся культурны абмен.

Спрабуючы знайсці кампраміс паміж аматарамі турызму ў КНДР і яго праціўнікамі, «The Guardian» заклікае праваабарончыя арганізацыі пачаць кампанію за інфармаванне турыстаў, якія едуць у КНДР, пра сапраўдную сітуацыю ў краіне. Выданне таксама лічыць, што турысты могуць паспрабаваць ставіць гідам не вельмі зручныя пытанні. Аднак самі паўночнакарэйскія дысідэнты смяюцца з падобных інструкцый. На іх думку, турыст, які прыбыў у КНДР, хутка разумее, куды ён трапіў, і намагаецца падчас візіту трымаць язык за зубамі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Фраўке Петры



Фраўке — лідар нямецкай еўрафобскай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), якая, натуральна, крытыкуе ўрад Ангелы Меркель за гатоўнасць прыняць мігрантаў з Блізкага Усходу. Такая пазіцыя не спадабалася Свену Петры, мужу Фраўке. У выніку сужонкі пасварыліся настолькі, што Свен заявіў пра разрыў шлюбу. Каб насаліць жонцы, ён у дадатак падаў заяву на ўступленне ў Хрысціянска-дэмакратычную партыю. Калі глядзець на разборкі ў сям'і Фраўке шырэй, то яна з'яўляецца добрай ілюстрацыяй працэсаў у нямецкім грамадстве. Шмат немцаў незадаволеныя міграцыйнай палітыкай Меркель, аднак у часткі грамадства яна знаходзіць падтрымку. Гэта адлюстроўваюць дадзеныя сацыёлагаў, паводле якіх падтрымка Меркель сярод немцаў правых поглядаў падае. З іншага боку, усё больш немцаў з левымі сімпатыямі гатовыя падтрымаць партыю Меркель на наступных выбарах праз гуманізм канцлера. Калі б выбары ў Бундэстаг адбыліся сёння, Меркель зноў атрымала б большасць, якая дазваляе ёй заставацца канцлерам. Застаецца дадаць, што больш за ўсіх цярпець ад такіх трэндаў пазбаўленыя харызматычных лідараў сацыял-дэмакраты, выбаршчык якіх бяжыць да Меркель. Рэйтынг сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі (SPD) складае не больш за 20–25 працэнтаў, што можа паставіць крыж на амбіцыях SPD сфармаваць урад у бліжэйшай будучыні.

### Алег Цягнібок



Партыя «Свабода», лідарам якой з'яўляецца Цягнібок, перажывае цяжкія часы з-за кампаніі крыміналізацыі, якую вядзе супраць яе адміністрацыя Пятра Парашэнкі яшчэ пасля спробы штурму Вярхоўнай Рады 31 жніўня. Аднак цяпер «Свабодзе» выставілі значна больш цяжкія абвінавачанні. 13 кастрычніка ў кватэрах лідараў партыі прайшліператрусы ў рамках расследавання справы пра расстрэлы на Майдане. Па дадзеных ГПУ, 20 лютага 2014 года падчас расстрэлаў актывістаў на вуліцы Інстытуцкай, прадстаўнікі «Свабоды» знаходзіліся ў гасцініцы «Украіна», адкуль магла весціся стральба. Пакуль свабодаўцы ў дадзенай справе праходзяць як сведкі, аднак тое, што кампрамат злілі ў публічную прастору, у любым выпадку не пойдзе на карысць іміджу партыі. Застаецца адно пытанне — нашто гэта патрэба Парашэнку? Пакуль версіі дзве. Першая — за кошт расправы над «Свабодай» ён хоча напалохаць праварадыкальных экстрэмістаў, якія мараць пра новы антыпарашэнкаўскі Майдан. Другая версія — рыхтуецца перафарматаванне ўкраінскага грамадскага дыскурсу, калі з рэгіяналаў здымуць абвінавачанне ў расстрэлах «Нябеснай сотні». Рэабілітацыя рэгіяналаў дапаможа прэзідэнту пашырыць сваю сацыяльную базу.

### Сцюарт Роуз



Брытанскі арыстакрат, былы выканаўчы дырэктар Marks & Spencer, мільярдэр, 12 кастрычніка ўзначаліў грамадскую кампанію Britain Stronger In Europe (Брытанія мацней у Еўрасаюзе). Яе мэта — захаваць Вялікабрытанію ў складзе ЕС. Як вядома, кансерватыўны ўрад Дэвіда Кэмерана дабіўся ад парламента згоды на рэферэндум наконт сяброўства краіны ў ЕС. Плебісцыт плануецца на 2017 год, і пакуль што еўрафобы, паводле сацыялагічных апытанняў у Вялікабрытаніі, у яўнай большасці. Змяніць сімпатыі брытанцаў паспрабуе Britain Stronger In Europe. Акрамя Роўза, у яе кіраўніцтве тры былых прэм'еры Вялікабрытаніі, шмат дэпутатаў, акадэмікаў, прафсаюзных актывістаў, вядомых публічных асобаў, прычым абсалютна палярных ідэйных поглядаў. Таму першыя крокі кампаніі падаюцца прэсе трошкі камічнымі. Так, адны кажуць пра цывілізацыйнае адзінства брытанцаў і еўрапейцаў. У той жа час іншыя пужаюць нашэсцем мігрантаў — такая перспектыва, маўляў, пагражае краіне з-за таго, што ў ЕС не будуць стрымліваць паток бежанцаў у накірунку Альбіёна. Падобны канцэптуальны кактэйль, натуральна, выклікае іранічныя каментары. Тым больш, сам Сцюарт, будучы кіраўніком Marks & Spencer, крытыкаваў Еўрасаюз за кепскі інвестыцыйны клімат. Праўда, кампанія Britain Stronger In Europe толькі стартавала, і, магчыма, стаўленне публікі да яе зменіцца. Застаецца дадаць, што дзед Сцюарта меў прозвішча Брыянцаў, быў жаўнерам белай арміі ў Сібіры, пасля разгрому якой збег на Захад праз Кітай.

# Андрэй Кудзіненка: Матэрыяльны складнік не можа панаваць над творчым

Калі я ўпершыню ўбачыў фільм «Акупацыя. Містэрыі», то вельмі здзівіўся таму, як яго прапусціла сучасная беларуская цэнзура, бо там было зусім не тое, пра што так дбае афіцыйная ідэалогія. Аказалася, ніхто нічога не прапускаў, і фільм 6 гадоў ляжаў на паліцы. А калі я пазнаёміўся з адным з лепшых сучасных беларускіх рэжысёраў Андрэем Кудзіненкам, то зразумеў, што па іншаму гэты фільм ён не мог зрабіць, бо сам жыве надзвычай неардынарна. Але няхай пра ўсё ён сам і раскажа.

**Аляксандр Тамковіч**

### Першыя кадры

У маім жыцці першыя кадры былі ў Брэсце 20 кастрычніка 1971 года. Бацька, Анатоль Дзмітрыевіч, быў архітэктарам. Працаваў у мясцовым універсітэце загадчыкам кафедры архітэктуры. Пачынаў у праектным бюро, а потым перайшоў у педагогіку, бо зразумеў, што гэта тое, што трэба. Яго вельмі любілі студэнты. На жаль, у 2010 годзе яго не стала.



Андрэй Кудзіненка, 1982 год

А маці, Галіна Данілаўна, дзякуй Богу, па наш час жывая, некалі працавала тавараведам. У мяне ёсць старэйшая на пяць гадоў сястра Таццяна. Яна не мае ніякага дачынення да мастацтва. Працуе ў Гродна эканамістам, падлічвае каштарыс для будаўніцтва. Ужо ёсць два пляменнікі.

Вучыўся я ў 7-й школе з паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы. Дарэчы, ужо калі вучыўся ў Кіеве ў палітэхнічным універсітэце, сярод студэнтаў тэхнічных ВНУ праходзіла рэспубліканская алімпіяда па нямецкай мове ў Харкаве. Дык вось, нягледзячы на тое, што я збег датэрмінова (пасля першага тура), заняў на ёй пятае месца. А збег таму, што другі тур праходзіў на наступны дзень, а тады ў Кіеве гулялі «Спартак» і кіеўскае «Дынама». Мне гэта было больш цікава. Таму і збег, а так быў бы адным з першых.

А гэты матч мне быў цікавы яшчэ і таму, што я займаўся футболам даволі доўга, і нават некаторы час хадзіў у спартовую школу.

Два першых класа я хадзіў на вольную барацьбу, бо бацькі падманулі наконт таго, што ў футбольную секцыю бяруць толькі з чацвёртага класа. Два гады я страціў. Справа ў тым, што ў мяне выявілі шумы ў сэрцы, таму бацькі палічылі футбол для мяне вельмі небяспечным.

Таму, дарэчы, нягледзячы на лепшыя, чым у іншых, пакасцы, спартовыя дактары не дапускалі мяне да розных спаборніцтваў.

Але ў футбол я ўсё ж прыйшоў. Збольшага я гуляў нападаючым альбо паўабаронцам. І вельмі рэдка — абаронцам. Падчас вучобы ва Украіне ўваходзіў у склад юнацкай каманды «Арсенал», якая лічыцца ў Кіеве другой пасля «Дынама».

Аднак хутка зразумеў, што футбол (у сэнсе кар'еры) — не самае галоўнае ў маім жыцці. Хаця дапамагаў ён даволі часта. Асабліва ў студэнцкіх атрадах. Для мясцовых хлопцаў я вельмі хутка станавіўся сваім.

Дый падчас школьнай вучобы, калі дваровыя каманды гулялі, за мяне ішла барацьба, бо наша каманда заўсёды перамагала.

У 1988 годзе з срэбным медалём я скончыў сярэднюю школу. Часта пытаюцца, навошта было ехаць у палітэх у Кіеў? Тым больш, што наш мінскі палітэх скончылі і мая сястра, і мой бацька.

А абраў Кіеў я па вельмі простай прычыне — гэта горад футбола, база клуба «Дынама». А тэхнічную ВНУ абраў таму, што мне лягчэй было здаваць уступныя экзамены па фізіцы і матэматыцы.



На здымках «Масакры». 2009 год

Шчыра кажучы, я думаў, вучыцца ў палітэху будзе прасцей, а высветлілася, што там шмат чарчэння, якое я літаральна ненавідзеў. Хацеў кінуць вучобу ўжо на першым курсе, але дацягнуў да чацвёртага. А потым не вытрымаў.

Прыблізна ў сакавіку 1992 года перастаў хадзіць на заняткі і цвёрда захацеў змяніць жыццёвы накірунак. Вырашыў стаць сцэнарыстам і паступіць у знакаміты УДІК.

### Сцэнары юнацтва

Назваць, з чаго пачалася мая цікаўнасць да кінематографа, даволі цяжка. Напэўна, так было трэба.

Многія памятаюць, што ў савецкія часы пасля праграмы «Время» звычайна паказвалі нейкае кіно. Я стараўся заўсёды яго паглядзець. Да таго ж, у Брэсце можна было глядзець польскае тэлебачанне, якое значна адрознівалася ад савецкага. Калі не было пільнага дагляду бацькоў, я глядзеў нават эротыку.



З бацькам Анатолем Дзмітрыевічам

**Праз некалькі месяцаў, дзякуючы Андрэю Курэйчыку, пашанцавала трапіць у майстэрню Паўла Лунгіна. Там я зняў прэзентаваны ў 2008 годзе «Розыгрыш». Некаторыя лічаць яго рымейкам фільма Мяньшова**

А ў канцы 1980-х гадоў, так бы мовіць, адкрыліся шлюзы, якія былі паміж СССР і Захадам. Адкрылася новая літаратура, кіно.

Менавіта ў той час з'яўлялася модная для савецкіх людзей літаратура — Велімір Хлебнікаў, Ніцшэ, Шапенгаўэр і г.д.

Бібліятэка нашага ўніверсітэта (вучылася 13 тысяч чалавек) была адной з лепшых ва Украіне і набывала шмат навінак. Я чытаў, як кажуць, запоем.

У той час і адбыўся выпадак, які падштурхнуў да новых жыццёвых арыенціраў. Сябры нада мной захацелі пажартаваць, і адзін хлопец прапанаваў два квіткі ў кіно.

Маўляў, добрае кіно, але без сваёй дзяўчыны, якая занятая іншымі справамі, ён не пойдзе.

Паказвалі фільм Сакурава «Дні забыцця». Пазней высветлілася, што той хлопец ведаў: давядзецца глядзець «нейкую муць», таму і скінуў мне квіткі. Фільм мяне вельмі ўразіў, я ледзь не звар'яцеў. Да гэтага ўжо даводзілася бачыць фільмы Андрэя Таркоўскага, але гэта было некалькі гадоў таму і прайшло міма, бо я іх (як і іншыя сакурсніки) банальна праспаў.

Дарэчы, яшчэ год пасля сыходу з палітэху, я жыў у нашым інтэрнаце, бо вярнуцца ў родны Брэст не мог — моцна пасварыўся з роднымі, маці нават са мной не размаўляла. Дык вось, сусед па пакою Вова Залескі з Сумаў, чый брат вучыўся «на актора», расказваў нам шмат цікавых гісторый пра норавы тэатральна-кіношнага жыцця. Вова таксама хацеў пайсці шляхам брата і паступіць «на рэжысуру». Ён шмат чытаў кніжак пра гэта, а потым перадаваў іх мне. Мы разам хадзілі на розныя прэм'еры, абмяркоўвалі фільмы.

Кінематаграфічны шлях мяне моцна зацікавіў. Я нават з'ездзіў у Маскву і пахадзіў па УДІКу. На рэжысёрскае аддзяленне трэба было прадставіць фотаработы, якіх у мяне не было, таму прыйшлося выбраць сцэнарнае.

Творчы конкурс я прайшоў без праблем, трэба было ехаць на іспыты, аднак на той момант беларусы, як і ўсе іншаземцы, за вучобу павінны былі плаціць грошы. І немалыя для мяне.

У родным Брэсце я паспрабаваў знайсці спонсара. Аднак у выніку вырашыў паступаць у Мінск. Да таго ж, у нас на рэжысуру (значны плюс) не былі патрэбны ніякія фатаграфіі. Толькі літаратурныя работы, якія былі ўжо напісаныя.

Усе ўступныя іспыты я паспяхова здаў і стаў студэнтам Тэатральна-мастацкай акадэміі. Дакладней, вучнем майстэрні аднаго з лепшых беларускіх рэжысёраў Віктара Цімафеевіча Турава. Гэта быў 1993 год.

### Містэрыі творчасці

Падчас вучобы кожны беларускі студэнт здымаў па некалькі кароткаметражак. У мяне гэта — «Жарцік», які потым атрымліваў прызы на фестывалях, і дыпломная работа «Гульня ў хованкі». Дарэчы, гэта карціна вельмі спадабалася другому мэтру айчыннага кіно Міхаілу Пташуку, які пасля смерці Віктара Турава хацеў узяць мяне ў свае прадаўжальнікі (тады ён яшчэ не набраў курс рэжысёраў).

Усе тыя работы — дзіцячыя гісторыі. Прычым гісторыі ў стылі рэтра, зробленыя па творах Фёдара Салагуба і беларускага пісьменніка-дэкадэнта Міхала Кузьміна. Нешта старамоднае, павільённае, з добрым грымам і элементамі трылера, містыкі.

На жаль, мы сталі апошнімі вучнямі Віктара Цімафеевіча. Першы курс ён намі займаўся вельмі шчыльна, прыходзіў кожны дзень, потым паехаў здымаць «Шляхціча Завальню», і ўжо мы час ад часу ездзілі на здымачную пляцоўку.

У 1996 годзе Турава не стала.

Сваю дыпломную работу я зрабіў задоўга да афіцыйнага сканчэння вучобы, і адразу пачаў працаваць у «Белвідэацэнтры», часоў дырэктарства вядомага рэжысёра Сяргея Лук'янчыкава.

Грошай там вялікіх ніколі не было, бо відэа — значна больш танная справа за звычайнае кіно і, напэўна, менавіта па гэтай прычыне ў нас панавала атмасфера шчырасці і прыязнасці. Усе любілі адзін аднаго, сябравалі, ахвотна ішлі на эксперыменты і дапамагалі патэнцыйным канкурэнтам.

Там я зрабіў першы фільм «Сны Валянціна Вінаградава», які спадабаўся крытыкам розных кінафестываляў. Зрабіў таксама багата эксперыментальных ролікаў, музычных кліпаў.

На мой погляд, «Белвідэацэнтр» мог стаць пляцоўкай нейкіх творчых эксперыментаў, але гэтага, на жаль, не атрымалася. З часам яго аб'ядналі з «Беларусьфільмам». Як у Саюза кінематаграфістаў, чый кіраўнік зараз сядзіць у перадбанніку нейкай фірмы, забралі памяшканні. Зразумела — цэнтр горада. Сёння гэта называецца адціснуць нерухомасць...

Эксперыменты мне заўсёды былі да спадобы, але яны далёка не заўсёды добра ўспрымаліся кінематаграфічным начальствам. Пачаліся даволі сур'ёзныя праблемы.

У 1999 годзе быў зроблены кароткаметражны фільм «Баран». Намеснік міністра культуры Цвяткоў, які курыраваў пытанні кіно, спачатку не хацеў яго прымаць, а потым прымусіў значна парэзаць.

А «Планету ХХ» ён увогуле паклаў на паліцу. Потым я гэты фільм пацягу вазіў на кінафестывалі, і ніхто ў ім не бачыў нічога крамольнага.

Словам, надышлі цяжкія часы, поўны вакуум — ні работы, ні перспектыў.

Памятаю, у кніжцы Козінцава «Чорныя дні» я прачытаў фразу: «Пачаўся глухі павучы час». Быццам бы пра мяне...

У той атмасферы і пачаліся здымкі «Акупацыя. Містэрыі». Першую частку (26 хвілін) мы знялі яшчэ ў 2001 годзе. Яна называлася «Партызанская містэрыя», і шмат каму вельмі спадабалася. Менавіта тады і прагучала ідэя зрабіць працяг.

Аднак перад гэтым быў зроблены (усяго за дзве тысячы долараў) мой поўнаметражны дэбют «Бітва пяці войскаў» — фільм пра дзяцей, якія захапляюцца творчасцю Толкіена.

У канцы 2002-га Ратэрдамскі кінафестываль выдзеліў мне невялікую дапамогу з умовай, што «Акупацыя. Містэрыі» ўпершыню будзе паказаны ў іх.

Увесь 2003 год праходзілі здымкі, фільм быў цалкам гатовы, але па ўмовах з прадзюсерамі мы паказалі яго толькі ў 2004 годзе.

У Ратэрдаме ўсе былі ў захапленні, а ў Беларусі фільм забаранілі. Прычына — публікацыя Сяргея Маліноўскага ў «Камсамолцы». Справа ў тым, што фільм запрасілі ў конкурс на прэстыжны (самы вышэйшы клас «А») маскоўскі кінафестываль, і мы шукалі грошы, каб «перагнаць яго на «ТАСМУ» (яшчэ адна ўмова ўдзелу ў конкурсе).

З раніцы мне тэлефануе Цвяткоў (фільму далі пракатны дазвол падчас яго адпачынку) і раз'юшана крычыць: «Ты што, звар'цеў!?» Аказалася, газета дала назву «Міхалкоў супраць Лукашэнкі».

У гэты ж дзень у нас забралі «пракатнае пасведчанне» і фільм забаранілі. На доўгія шэсць гадоў.

## Рэжысура жыцця

Разам з фільмам забаранілі і мяне. Некаторы час я на чвэрць стаўкі выкладаў у інстытуце, потым па мастацкай праграме крыху пажыў і сам павучыўся ў Польшчы.

Асабліва цяжкім стаў 2006 год. У пошуках грошай я вырашыў папрацаваць у Расіі, дакладней у Цверы, дзе праходзілі здымкі другой часткі серыяла «Кадэцтва».

Серыялы, дарэчы, — вельмі небяспечная ў сэнсе творчага развіцця рэч. Рэжысёр пачынае працаваць штампамі, за якія добра плацяць. Дзякуй Богу, што нягледзячы на тое, што ў 2006 годзе я зняў яшчэ і адну з серыяў (11-ю) «Апера-2. Хронікі забойнага аддзела», атрымалася адыйсці ад гэтага канфармізму.

Праз некалькі месяцаў, дзякуючы Андрэю Курэйчыку, пашанцавала трапіць у майстэрню Паўла Лунгіна. Там я зняў прэзентаваны ў 2008 годзе фільм «Розыгрыш». Некаторыя лічаць яго рыймейкам вядомага з савецкіх часоў фільма Уладзіміра Мяньшова.

Скажу так — гэта абсалютна новая карціна, якая, сапраўды, зроблена па матывах знятай раней.

У гэты ж час у Беларусі пачалося тое, што потым назавуць лібералізацыяй. Цікава, што тады «Беларусьфільмам» кіраваў вядомы Замяталін, якога цяжка абвінавачваць у нейкай любові да дэмакратызацыі.

Але трэба было трымаць «нос па ветру».

Я прывёз у Мінск адразу тры сцэнары. Сам хацеў здымаць нешта жорстка-маладзевае, але ім гэтага было не трэба.

Нікому з кіраўніцтва «Беларусьфільма» не хацелася бачыць у фільме якую крамолу, наўпроставыя паралелі і асацыяцыі. Дарэчы, на мой погляд, ад гэтага «Масакра» пацярпела больш за ўсё.

Нагадаю, што падзеі фільма адбываюцца пасля жорсткага падаўлення расійскімі войскамі паўстання Кастуся Каліноўскага. У беларускім грамадстве пануе атмасфера страху і разгубленасці. Усе гэта накладваецца на містычную гісторыю мядзьведзя-перэвартня з вытокамі ў старабеларускіх паданнях і навеле Праспера Мэрымэ.

Жанр я вызначыў як «бульба-хорар».

Першапачаткова там было шмат закадравага тэксту, ад якога мяне потым прымусілі амаль цалкам адмовіцца. Спрацавала цэнзура. Выказванні грузінскага цара, напрыклад, выразалі толькі таму, што на той час ужо была вайна з Грузіяй.

Па прычыне раздзяўбайства і нізкай кваліфікацыі яны не змаглі зрабіць ніводнага спецэфекту. І ўвогуле, праблемы з вытворчасцю былі жудасныя. Пачалося з таго, што здымачнай групе не плацілі грошы па паўгода, хаця адразу абяцалі зрабіць для фільма асобны рахунак. Для айчыннага кінематографа гэта не ўласціва. Звычайна робіцца так: на фільм дзяржава выдзяляе грошы, іх «кідаюць у агульны кацёл» «Беларусьфільма», адкуль потым і кормяцца ўсе, каму не лянота. Самае сумнае, што непасрэдна тым, каму яны і выдзелены, сродкі прыходзіцца літаральна выпрошваць. І даходзяць тыя ў апошнюю чаргу, значна схуднелымі.

Адзін дырэктар з «Беларусьфільму» мне неяк хваліўся, што яго фільм зняты ўсяго за 600 тысяч долараў — рэкорд таннасці. А я адказаў, што за гэтыя грошы можна было зрабіць дзясятак падобных карцін. А то і ўсе дваццаць, 2–3 з іх былі б канкурэнтаздольнымі.

Не разумею, як можна «аптымізаваць вытворчасць» без звальнення тых, хто нічога не робіць, а зарплату (за кошт розных надбавак і каэфіцыентаў) атрымлівае нашмат вышэй за ўсіх астатніх. Рэжысёры тады атрымлівалі па 300–500 долараў, а начальства — у пяць разоў больш.

Калі я працаваў у Паўла Лунгіна, там у вытворчасці былі тры фільмы. Тое ж самае адбывалася падчас майго вяртання на «Беларусьфільм». Толькі ў Лунгіна былі адзін бухгалтар і адзін эканаміст-студэнт, а тут — аж дзясяткі чалавек.

Ім здаецца, што сёння самае галоўнае — тэхніка, а не людзі.

У мяне быў выпадак, калі падчас здымак чарговага кадра вадзіцель выключаў святло, таму што яго змена скончылася...

Абсурд! Яны закупілі новы праявачны цэх, а зараз на стужку ўжо нічога не здымаецца. Усё лічбавае, з «лічбай» працуюць нават кінатэатры. Пытанне: навошта трэба было купляць абсталяванне за сотні тысяч долараў? Афіцыйны адказ: «Тады цэх праяўкі стужкі трэба звальняць»... Такое ўражанне, што на «Беларусьфільме» супрацоўнікі заточаны на нейкае супрацьстаянне здароваму сэнсу. Фактаў, якія пацвярджаюць гэтую выснову, вельмі-вельмі багата.

Замяталін яшчэ неяк мог (часта матам) нечага дабіцца, бо яго баяліся. Усе астатнія дырэктары «Беларусьфільма» — не.

На жаль, Замяталін моцна захварэў, калі мяне з «Масакрай» даволі подла падманулі і сталі патрабаваць, каб «закрыў год».

Па існуючых нарматывах я мог у спакойным рэжыме здымаць яшчэ паўмесяцы, але мяне прымушалі завяршыць здымкі да канца года. Я здуру пагадзіўся, а калі працягнуў здымкі на адзін дзень, які быў вольным (у свой выхадны) і паўзмены разам з апаратарам і каскадзёрам здымаў сцэну пажару, яны пазбавілі прэміі нашу здымачную групу.

Пры гэтым усёй студыі, то бок самім сабе, заплацілі за выкананне гадавога плана студыі, які і зрабіла наша здымачная група... Абсурд і бязмежжа!

І гэта пры тым, што я зэканоміў некалькі здымачных тыдняў, і даў ім магчымасць выпісаць вялікія прэміі самім сабе.

Дарэчы, абсурду падчас здымак наогул хапала. Напрыклад, адна жанчына з планавага аддзела не пускала мяне на здымкі старажытнай капліцы ў Грушаўцы (Пружанскі раён) па прычыне таго, што могілак «і пад Мінскам хапае».

## Творчы ракурс

Пасля «Масакры» мы яшчэ паспелі запусціцца са «Шляхціцам Завальняй», але, як вядома, у снежні 2010 года лібералізацыя скончылася. Фільм, дзе беларускі тэрарыст з «Народнай волі» Ігнацій Грынявіцкі забівае рускага цара Аляксандра ІІ, адразу стаў крамольным.

У гэты год, дарэчы, у маім жыцці змянілася амаль усё. Памёр бацька. Не стала лепшага сябра Сашы Колбышава... Увогуле, пачаўся нейкі іншы этап.

Не верце нікому, хто кажа, што ў 2012 годзе тагачасны гендырэктар «Беларусьфільма» Алег Сільвановіч не працягнуў са мной кантракт па яго ініцыятыве. Наадварот, мяне ўгаворвалі ўсё падпісаць. Я сышоў сам, таму што яны адмовіліся (па прычыне адсутнасці сродкаў) працягнуць фінансаванне «Шляхціца Завальні». Так што фармальна фільм па наш дзень у запуску, толькі зараз на кансервацыі.

Пасля майго звальнення адразу з'явілася шмат прапаноў наконт здымак камерцыйных серыялаў, што мне было не цікава. З сябрамі мы паспрабавалі адкрыць у Маскве новую студыю, аднак хутка разышліся ў поглядах на кіно, а адзін інвестар адкалоўся ўвогуле.

Праз некаторы час я зняў фільм з Іванам Аляксеевым, хлопцам, які дэбютаваў у маім «Розыгрышу». Наш фільм можна аднесці да жанру псіхадэлічнага трылера, а называецца ён «Hard Reboot», што адпавядае назве аднаго з трэкаў гурту «Noize MC». Сёння гэта даволі папулярны ў Расіі калектыў.

Падчас здымак, дзе не было зробленага раней сцэнарыя, сталі ўзнікаць розныя сюжэты і атрымаўся паўнавартасны сюжэтны фільм. Хачу падкрэсліць, зроблены ён быў выключна для інтэрнэту.

На жаль, кіраўніка гурту не засмуціла, што прынцып працы быў кардынальна іншы. Яму захацелася атрымаць прыбытак, і з мэтай патрафіць гледачу, з разлікам на сваіх паклоннікаў, крыху перарабіць усё і пусціць карціну ў кінатэатры. На гэтай глебе мы і разышліся...

Зараз у мяне новы праект, які прасоўваецца метадам дабрачынных ахвяраванняў, бо ў асноўным ён трымаецца на людскім энтузіязме. Унікальны праект! Вельмі добры! Называецца «Хранатоп». Гэта як бы палітра сучаснай беларускай міфалогіі.

Я называю яго твітэр-серыял. Складаецца ён з вельмі кароткіх гісторый 5–7 хвілін, якія абавязкова звязаныя з нейкімі абрадамі альбо рытуаламі нашай штодзённасці. Па сутнасці гэта сучасны фальклор — нейкія міфалагічныя гісторыі, парадоксы, выпадкі і нават страшылкі. У некаторым сэнсе атрымаецца тое, што робіць у сваіх творах Адам Глобус.

Гэтую ідэю я прапанаваў многім пісьменнікам. Усім яна вельмі спадабалася. А некаторыя нават вырашылі выступіць і ў якасці рэжысёраў сваіх сюжэтаў. Па сутнасці гэта бессэнсоўныя, інтэрактыўны каляндар сучаснага беларуса.

На дадзены момант ужо ёсць 43 хвіліны матэрыялу, які я хачу дагнаць да адной гадзіны дваццаці хвілін. А потым гэты альманах выкласці ў інтэрнэце.

Праект, хаця выкананы на прафесійным узроўні, не будзе камерцыйным. Гэта не «хлеб з маслам». Наадварот, мы ўкладаем свае грошы.

Матэрыяльны складнік, канешне ж, вельмі важны, але ён не можа дамінаваць над творчым. Інакш атрымаецца нешта банальнае, няякаснае.

**Фота з уласнага архіву Андрэя Кудзіненкі**


Бацькі. 1964 год


Са стрыечнай сястрой Ганнай і бацькам Анатолем Дзмітрыевічам. Славянск Данецкай вобласці, 1980 год


На здымках «Акупацыя. Містэрыі». 2003 год

# Роздум пра Нобеля і невымоўнае

Андрэй РАСІНСКІ

**Альфрэд Нобель найперш вынайшаў дынаміт. Калі дынаміт прамаўляе, спачатку бачыш у далёкай і невымоўнай цішыні выбух; аглушальная хваля прыходзіць потым. Мы яшчэ не ўсвядомілі, што значыць Нобелеўская прэмія па літаратуры, прысуджаная Святлане Алексіевіч; мы нават яшчэ не пачулі.**




Раней гучалі перасцярогі, што прэмія гэтая пахавае беларускую мову. Што беларуская мова, і без таго кволая, канчаткова счэзне і знікне, а на колішняй тэрыторыі Беларусі застанецца адно руская. Сцвярджаю: наадварот, мова беларуская — і беларуская культура — будзе квітнець і ўзбагачацца, а вось мове імперыі не пазайздросціш.

Імперыя — савецкая, як крывавейшая спадкаемца расійскай — размаўляла на рускай мове. І нялюдская імперыя сёння атрымала паразу ад крохкай жанчыны з чулым сэрцам, якая для абароны чалавека скарысталася самай эфектыўнай імперскай зброяй.

Зброя гэтая напоўніцу заявіла пра сябе ў XIX стагоддзі. І «выбуховы» ваенны пакт, закладзены пад прышлае, быў заключаны нават не з Буніным, першым рускім пісьменнікам — Нобелеўскім лаўрэатам, а з заснавальнікам сучаснай рускай літаратуры — Пушкіным.

«Вольналюбівы лірык» праслаўляў перамогі імперыі, што душыла паўстанне ў Рэчы Паспалітай, і марыў пра час, калі «славянские ручьи сольются в русском море». Чалавек, які ганарыўся, што ён «милость к падшим призывал», чамусьці быў упэўнены, што вучыць на памяць ягоныя вершы заўжды будуць і тунгус, і фін (ці ведае хто з іх пра расійскага «піита»?), і «друг степей калмык» (у нататках фігуравалі яшчэ грузін і кіргіз, якія запавету здрадзілі).

Проста на захопленых землях спачатку атабарваўся расійскі штык. Потым у засені штыка з'яўляўся паэт, які зацягваў сваю «вольналюбівую» песню. «Вольналюбства» гэтае ў ніякім разе не распаўсюджвалася на права неімперскіх народаў вызначаць свой уласны лёс. Усе абавязаныя былі карыстацца «вольналюбівай» імперскаю мовай.

Штык і пяро заключылі сталы саюз, імперыя ішла пад ручку з рускай мовай. Калі ў нетрах рускай літаратуры гучала спачуванне да маленькага чалавека, то абалонка яе — якая і дазваляла голасу існаваць — была зробленая з канцылярскіх рэляцый, жалезнага ляскату і крывавага поступу.

Так, спачуванне Шолахава — другога Нобелеўскага лаўрэата рускай літаратуры — цалкам абмінула літаратурных дысідэнтаў Сіняўскага і Даніэля, якіх ён марыў пакараць, як у «помныя 20-я». Салжаніцын — сведак Архіпелагу Гулаг — даваў парады «ўладкавання Расіі», незалежнасці Беларусі пры гэтым ні ў якім разе не прадугледжвалася.

Нават Іосіф Бродскі адзначыўся жаданнем «плюнуць у Днепр», раздражнёны украінскай вольніцай. І гэта сказаў чалавек-выгнанец, які кшталтаваў рускую паэзію і быў абраным «средством языка к продолжению своего существования».

Урэшце імперскі «язык» прыйшоў у Беларусь. Усталёўваўся ён, падаўляючы паўстанні і бязлітасна рабуючы маёнткі інсургентаў. Нягледзячы на гэтае беларуская мова прарасла праз штыкі.

У XX стагоддзі пытанне з мовай вырашалася проста: куляй у патыліцу. У 1937 годзе, калі чырвоная імперыя беснавалася, сноўдалі чорныя варанкі і збіралі ахвяры. Колькі ахвяраў было? Толькі ў адну кастрычніцкую ноч у Мінску застрэлілі сотню: паэтаў, пісьменнікаў, навукоўцаў.

Беларуская мова была амаль забітая. Беларуская душа выжыла.

Героі Алексіевіч — пераважна тутэйшыя людзі. Сотні галасоў, ахайна сабраныя, запісаныя, прапушчаныя праз уласнае сэрца. Гэта калектыўныя дакументальныя споведзі «зачараваных смерцю» жанчын-снайперак мінулай вайны і «цынкавых хлопчыкаў» з Афганістану, гэта супольная «чарнобыльская малітва» на раскладзенай радыеактыўнай зямлі, гэта «час сэканд-хэнд» чырвонага чалавека, які пестуе і нясе ў сабе катастрофу.

Алексіевіч адмовілася ад мантажу дакумента і фікцыі. Толькі дакументальны голас і някідкае тлумачэнне — як дакумент. Яна не складала кніг на беларускай мове — што дадало б манеўру аўтарскага тлумачэння — і аскетычна засяродзілася на гутарках, як яны гучаць.

Так, імперыя размаўляла на рускай мове. І гэтая мова ўжо распадаецца.

Ёсць у кнігах Алексіевіч нешта невымоўнае. Самае невыноснае і страшнае ў яе кнігах — не запісанае словамі. У дакументальным кінацыкле «У вайны не жаночы твар», пастаўленым Віктарам Дашуком паводле сцэнараў Алексіевіч, ваенная кінахроніка прадстаўленая як насланнё, як вязкі сон без усялякіх слоў. І гэта найлепшае ўвасабленне кніг.

Гераіні Алексіевіч часта маўчаць. У гэтым маўчанні, падкрэсленым рэмаркамі, боль, пакуты, прастрэленае навылет жыццё — і ціхая, нячутная прысутнасць амаль знішчанай мовы, схаванай пад руінамі імперскага «языка».

Менавіта боль і пакуты выклікаюць шал у імперцаў. Сёння імперыі не трэба ўжо гуляць у ніякае спачуванне: у дактрыне Пуціна, папаразнесенай крыкамі забойцы-тэлевізара, рускі «язык» — гэта і ёсць штык, які мусіць дабіваць ворага. Але словы Алексіевіч, наадварот, ламаюць лязо штыка.

Для людзей, якія стала пажылі за Савецкім Саюзам, кнігі Алексіевіч — гэта пакутлівы, але вельмі неабходны хірургічны дотык да ранаў. Гэта цяжкая праца з калектыўнымі траўмамі, псіхатэрапія болю, зварот да сумлення.

Тыя, каго закрануў Савецкі Саюз толькі ўскрайкам, — у сітуацыі складанейшай. Колішняе савецкае почасту не паспела прарасці глыбока ў іхнія душы. Многія людзі сярэдняга веку — «унутраныя еўрапейцы», што старанна, як могуць, вымалёўваюць сваё чароўнае кола. Яны атачаныя з усіх бакоў помнікамі і стодамі савецкага.

Але ад сабраных у кнігах галасоў «чырвонага чалавека» вылазяць са сценаў старыя здані. Статуі катаў жывяцца стогнамі ахвяраў, дэманы расплюшчваюць вочы і нават голас аўтаркі гучыць тады аўтарытарным загадам: усё, што ні ёсць савецкага, кідаецца на небараку, ягоны крохкі свет рушыцца. Смерць наступіла, аніякай надзеі няма.

Параза такога ўспрымання звязаная з абставінамі і «языком». Найлепей успрымаць кнігі Алексіевіч, калі савецкае адышло, ці далёка — гэта гарантуе эстэтычную дыстанцыю. Пераклады таксама гэтую дыстанцыю задаюць. Але кнігі Алексіевіч — гэта не столькі эстэтыка, колькі этыка, што абараняе чалавека, зняволенага насланнём.

Што да цэтлікаў прыналежнасці, то ў беларускую культуру аўтаматычна ўваходзіць усё — ці добрае, ці дрэннае — напісанае ў Беларусі на беларускай мове. З напісанага на іншых мовах уваходзіць усё, што беларуская літаратура пажадае ўзяць. Дакладней, самае лепшае. У гэтым лепшым кнігі Алексіевіч займаюць пачэснае месца — і Святлану Алексіевіч у Беларусі ўжо не адабраць.

У сваю чаргу, Алексіевіч вызваляе схаванае ў рускай мове спачуванне ад абавязковых імперскіх абдымкаў. Нашы суседзі могуць скарыстацца гэтым вынаходніцтвам, але пакуль няма ніякіх пазнакаў, што гэта адбудзецца.

Калі беларускі дар будзе адрынуты, Расія знікне. Яе накрые выбуховая хваля.

*У № 36 ад 25 верасня для ілюстрацыі артыкула "Беларускі свабодны тэатр, родны ды блізкі" былі выкарыстаны два фотаздымкі, але аўтарства іх не пазначана. Рэдакцыя газеты "Новы час" прыносіць свае прабачэнні фатографу Вользе Качура за парушэнне яе аўтарскага права.*

# Струны сэрца чыстага

**10 лістапада ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбудзецца канцэрт-мемарыял паэтаў Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна «Струны сэрца чыстага».**




Ідэя правядзення мемарыяльнай вечарыны належыць народнаму артысту Беларусі, дырыжору Міхаілу Казінцу — выдатнаму музыканту і глыбокаму знаўцу беларускай літаратуры і паэзіі. Творчасць вялікіх паэтаў беларускай зямлі Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна заўсёды адыгрывала вялікую ролю ў творчай дзейнасці маэстра Казінца, у фарміраванні яго светапогляду.

— Любоў да беларускай паэзіі прыйшла да мяне ў далёкія 60-я гады пад уплывам вершаў Барадуліна і Бураўкіна, — гаворыць Міхаіл Казінец. — Мы былі з аднаго пакалення, а з Генадзем Бураўкіным яшчэ і сябравалі. Рыгор Барадулін — першаадкрывальнік новых даляглядаў у лексіцы паэзіі. У яго вершах рассыпаны разынкі народнага гумару. Генадзь Бураўкін — паэт-лірык, але і ў ранняй, і ў позняй лірыцы ён заўсёды паўстае вялікім філосафам і грамадзянінам. І Барадулін, і Бураўкін — гэта носьбіты беларускасці, абодва вельмі тонка адчувалі беларускую мову. Лёс распарадзіўся так, што яны пайшлі з жыцця амаль адначасова, адзін за адным — вясной 2014 года...

Канцэрт «Струны сэрца чыстага» складаецца з 2-х аддзяленняў. У 1-м прагучаць песні на вершы паэтаў. У суправаджэнні Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І.Жыновіча пад кіраўніцтвам Міхаіла Казінца будуць спяваць Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Зміцер Вайцюшкевіч, Ігар Задарожны, Андрэй Коласаў і іншыя артысты. Прагучаць галасы паэтаў Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна, якія будуць чытаць свае вершы.

У 2-м аддзяленні Міхаіл Казінец будзе дырыжыраваць Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі. Для выканання абрана Шостая сімфонія Андрэя Мдывані «Полацкія пісьмёны» — твор, які апавядае пра выдатных дзеячаў старажытнасці — Ефрасінню Полацкую і Францыска Скарыну. Постаці нашых вялікіх сучаснікаў Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна нібы становяцца ў адзін шэраг з гэтымі вялікімі гістарычнымі асобамі.

budzma.by

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара **Колб Аксана Мікалаеўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1327

Падпісана да друку 16.10.2015. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.